
Шудзялава→5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Музей і студэнты→8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 08 (2963) Год LVIII | Беласток, 24 люты 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Нязломны беларускі яздок

## Сакрат Яновіч (1936-2013)

У нязведаную жыццёвую дарогу з родных крынкаўскіх загонаў адправіўся Сакрат Яновіч у вялікі горад Беласток за навукай, хлебам, беларускасцю. У тым жа часе дзесяткі тысяч басаногіх выхадцаў з паваенных беларускіх вёсак з неўтаймаванай радасцю здасць у гарадское і чалавечае забыццё родную мову, веру, нацыянальную будучыню. А ўсюды вакол квітнела і буяніла маладосць і ўсе марылі стаць польскімі панамі ці прынамсі падпанкамі. На вачах сябрук Вася станавіўся Вацкам, сяброўка Ніна — Янінай. Яны, разам са сваімі дзеткамі, саромеліся ўласных, дзеравенскіх бабуль і дзядуляў. Заставаўся крык, роспач, бязвыхаднасць. Перад родным, беларускім на Беласточчыне вырасла сцяна, быццам Берлінскі мур, які выдаваўся непарушным на стагоддзі. І заставалася ахвота яго зварухнуць, паслабіць, узмацняючы сваё роднае слова. Думаць, пісаць і марыць па-беларуску. Сэнс жыцця, пратэст маладосці, а ўсё пад пільным наглядам палітычнай паліцыі. Цана беларускіх мараў і наіўных спадзяванняў на чалавечы твар улады і спецслужбаў аказалася надта высокай. Былі гэта самыя цяжкія, малыя дні вялікага крынкаўскага мудраца.

Але атрыманая навука не пайшла дарма. Сакрат Яновіч са здвоенай сілай ідзе на самотнае змаганне за беларускасць з тадышняй сістэмай. Змагаецца той зброяй, якая прыходзіцца быць найболып запамінальнай суродзічам і нашым ворагам: словам, словам, словам. Сейбіт, што дапамог самасейным беларускім сцяблінам Падляшскай зямлі пераўтварыцца ў роднае зерне. І трэба было з усім паспець. Любой парою дня і ночы трэба было спяшаць на сустрэчы, размовы, каб зрабіць сваю справу. Пазбаўлены працы, зарплаты, публічна абвінавачаны ў беларускім нацыяналізме — вытрымаў гэтае выпрабаванне. Пакліканы зараз перад аблічча Усявышняга можа са смеласцю глядзець Яму ў вочы. За той час змагання прыйшлося заплаціць таксама і цаной здароўя. Сакрат Яновіч як багдановічаўскі рыцар-яздок, выехаў у поле на бясконцую, беларускую вайну. Меч — гэта слова, шчыт — родная мова. Сярэбраны яздок пераўтварыўся ў нязломнага рыцара. Рыцара, які змагаецца не толькі за нашае падляшскае, але якому мрояцца і сны аб Беларусі. Беларусь, Беларусь — як нязведаная зямля намі самімі, але і блізкімі, і далёкімі суседзямі. Пісаць пра нас на ўсіх мовах, рабіць з беларускасці справу гонару і годнасці. Перапоўненыя лёсам беларускія даліны разлiваліся невераґодными тысячагадовымі гісторыямі, вартымі літаратурнага і публіцыстычнага запісу. Сведка і стваральнік нашай беларускай палітычнай гісторыі Падляшша, пісьменнік, публіцыст, перакладчык, ахоўнік і архіварыус культурнага слова, падпольны выдавец. Як таленавіты садавод, з бязмежнай цярплівасцю даглядаў і падтрымліваў свет нашых беларускіх слядоў і знакаў.

Відаць, там, у Вярхах, спатрэбіўся зараз чалавек, які зможа агарнуць загоны райскага агарода. Але і на зямлі крынкаўскі агарод Сакрата Яновіча быў аазісам прыгожага і вечнага, у якім любімае ім чырвонае віно набіралася смаку яго ных слоў і гумару. Ах, як не хацелася з'язджаць з дому, што па вуліцы Сакольскай, 9, у якім з кожнага куточка распавядалася хатняе стагоддзе сям'і Яновічаў. Кожны расказ — гатовая мініяцюра, якую бяры, пралівай на паперу і выдавай. Каб толькі хапіла сіл справіцца з усім задуманым — паўтаралася ў ягоных словах. Слова беларускае, што разлілося па еўрапейскіх салонах і адгукалася не рэхам, але перакладамі, вярталася і запаўняла шматмоўнасцю крынкаўскую ваколіцу. Еўрапеізацыя Крынак і Беларусі.

Жыццё зрабіла паварот. Адпраўляўся Сакрат Яновіч з Крынак у свет за беларускасцю. Зараз свет паехаў за ёю да Вас, Сакраце, у Крынкі. Бо так павінна быць даўным-даўно. І за ўсё тое, што Вамі напісанае і зробленае — ад сэрца і душы дзякуем. А калі будзеце шпацыраваць па нябесных узгорках і далінах, нагадваючы родныя краявіды, і ў задуменні пiпчыць сваю папяроску, то нагадвайце нам усім, што Беларусь і беларускасць — гэта справа не для разлезлікаў.

Яўген ВАПА



## М а л і т в а да беларускага слова

Беларускае слова, ты мая айчына! Мой сон ля вакна цветалiпнёвага, у раніцу пчаліную. І пошум пушчы стрункахвойнай, і весялосць густазялёная. Ты, як дзяцінства, ідзеш за мною.

Слова матчынае, ты мая сляза! Мая трывога ў вечары кахання чыстаквяцістага, у садзе юнацтва. І чарнабрывы позірк дзяўчыны сарамлівай, і бяссонне зорнае. Ты, як лёс, паўстаеш у далягладзе нязбытным.

Слова роднае, суме мудры! Мая радасць неўтаймонная, што часамі лунае вясёлкаю на небе краіны майго прызначэння. І няспешна павучаеш мяне жыць сваім розумам, і гасцінцам ісці шырокім праз гады раз дадзеныя. Ты, як сябар шчыры, не пакінеш у няшчасці.

Табе я, слова, беларускае, кланяюся і веру.

Бог ты мой!

Ты мая рэлігія!


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Спачуванні

17 лютага ў родным доме ў Крынках памёр **Сакрат Яновіч**. Пражыў 76 гадоў. Адышоў ад нас чалавек вялікага маштабу — выдатны польскі Беларус, прызнаны літаратар, інтэлектуал, заслужаны грамадзянін.

Пасля смерці Сакрата Яновіча злучаемся ў смутку з Яго сям'ёю і блізкімі.

Юрка Хмялеўскі,
старшыня Фундацыі Віла Сакратас

* * *

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", рэдакцыя і сябры рэдакцыі з вялікім болем успрынялі вестку пра смерць выдатнага беларускага пісьменніка, шматгадовага нашага журналіста, грамадскага дзеяча нашай зямлі — **Сакрата Яновіча**. Словы спачування выказваем для жонкі Тані з сынамі і іх блізкім. Няхай крынкаўская зямля будзе Сакрату Яновічу вечным пухам.

Калектыў „Нівы"

* * *

Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" смуткуе з прычыны вялікай страты. Памёр **Сакрат Яновіч** — беларускі пісьменнік, якога значэнне і ролю ў літаратуры не пераацаніць.

Управа „Белавежы"





# Вежы і веды

Нашая мяжа, як і належыць для мяжы, дзе штучна і ўпарта спрабуюць раздзяліць натуральную хаду агульнаеўрапейскай цывілізацыі на дзве надуманыя паловы, зноў аказалася пад пільным наглядам і на моцным замку. Замок умоўны, як і сімвалы на ім, з неіснуючым іржавым вялікім ключом і казачнымі вялікімі варотамі, таксама неіснуючымі. Ну і з астатняй віртуальнай атрыбутыкай і абсталяваннем, услаўленымі ў песні пра кантрабандыста Касяй Камоцкай — таемныя пасткі, сховы, жалезныя маскі на тварах аховы і высокія вежы.

У рэальнасці ж гэта проста чарговы службовец у прыгожым мундзіры на адным з берасцейскіх мытных пераходаў, які заўважыў у сумцы ў свайго суайчынніка... кніжку. Так, кніжку. І таму ён яго рэальна затрымаў, каб нібыта дакапацца да таго, што такога ў той кніжцы напісана. Вось такая ў гэтага службоўца непераадольная цяга да друкаванага слова.

І хоць чалавек у мундзіры сам мае вышэйшую адукацыю, што тэарэтычна сведчыць пра тое, што службовец — асоба пісьменная і чытаць у прынцыпе ўмее, ён усё ж выклікае на дапамогу яшчэ некалькі супрацоўнікаў з іншых службаў. І ўсё для таго, каб нібыта разабрацца ў змесце кніжкі, якую маладыя людзі везлі са сходу „вікіпедзістаў".

Падобная справа не новая, і зусім не арыгінальная. Людзей з кніжкамі на беларускай мяжы затрымліваюць часцей чым нелегалаў ці кантрабандыстаў, калі суаднесці колькасць гэтых кніжных затрыманняў да колькасці чалавек, што возяць кніжкі, і той колькасці, што цягае кантрабанду. І мяне самога неяк затрымлівалі з кніжкамі. Нават сабаку з вартаўнікам прыстаўлялі, а пад колы машыны клалі адмысловыя пасы са здаравеннымі іголкамі. А кніжкі, як і мае быць, забіралі на экспертызу. Страшна не было, але не было і смешна. Бо калі глядзіш на дарослага чалавека, які сваім абавязкам лічыць не прапусціць праз мяжу кнігу, становіцца проста балюча. (Зрэшты, у яго службовых абавязках вайна супраць кніжак нідзе не прапісаная. Назавём гэтыя дзеянні прыватнай ініцыятывай на дзяржаўнай службе).

Цікава, якую мэту ставіць сабе гэты чалавек. З яго слоў ён баіцца, што ў гэтай кнізе можа быць нешта абразлівае для існай дзяржаўнай сістэмы. Але ж гэта не так. Яму пляваць на гэта, бо ў XXI стагоддзі, каб пераслаць нейкую інфармацыю, дастаткова націснуць гузік на клавіятуры. І не трэба цягнуць у торбе лішні груз. І той, што затрымлівае кнігі, добра гэта ведае. А чалавек вязе з сабой кніжку толькі таму, што любіць кніжкі. Дык навошта ж яго затрымліваць?

Адказ тут просты і ляжыць на паверхні. Кніжкі затрымліваюць, каб паказаць сваю чуйнасць і такім чынам, без удасканалення свайго прафесіяналізму і без асаблівай напругі на працоўным месцы забяспечыць асабіста сабе кар'ерны рост.

Самыя ж дзеянні кніжнага арышту нясуць адваротны вынік. Пра затрыманую літаратуру пачынаюць пісаць, людзі ёй пачынаюць цікавіцца і старацца набыць. Ведаю па сабе, калі мой тэлефон разрываўся ад пытанняў, дзе можна набыць тую кнігу, якую „арыштавалі".

Ведаю гэта яшчэ па дзембельскіх альбомах. Паколькі я служыў за мяжой у засакрэчаных войсках, нам было забаронена рабіць вайсковыя альбомы. Рабілі ж іх усе мае саслужыўцы, і ўсе перавозілі праз непераадольную мяжу Савецкага Саюза, мінаючы надзвычай пільны нагляд. Там жа, дзе альбомы рабіць дазвалялася, большая палова жаўнераў не абцяжарвала сябе такім заняткам.

Вось і зараз, прачытаўшы ў інтэрнэце пра чарговае кніжнае затрыманне з роспачу адзначыў, што бракуе інфармацыі пра тое, якія канкрэтна кнігі апынуліся „за кратамі". Думаю, што вельмі вялікая колькасць людзей захацела цяпер іх набыць і прачытаць. І большасць з іх так і зробіць. Не прачытае той кнігі цяпер хіба толькі той службовец, што яе затрымаў. Яму глыбока да лямпачкі што гэта за кнігі, і пра што там пішуць.

Ну а кнігі нясуць веды. І кожны раз усялякая кніга, не важна з якім зместам, перасякаючы мяжу, будзе працягваць нішчыць таемныя пасткі, рабіць непатрэбнымі сховы, здымаць з аховы жалезныя маскі і дарыць іх тварам шчырыя ўсмешкі. Ды разбураць вежы, якія даўно ўжо нікому непатрэбныя.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Працуй, працуй, працуй

Незалежна ад таго, ці ты цяпер рабочы лясны ці ў фабрыцы гаек, працаўнік у краме ці ўстанове, мусіш усведамляць сабе, што дзяржаву не цікавяць выробленыя табою гайкі, пастаўленыя кубаметры драўніны ці аказаныя паслугі. Нават ты сам мала яе цікавіш. Паколькі ты плацельшчык сацыяльных страховак ЗУС, ты з'яўляешся для яе выключна бюджэтнай запхайдзірай ды вытворцам цяперашніх пенсій. Гэта дзякуючы табе яны могуць выплачвацца. Памятай, што за тваю працу трымае пальцы шматмільённы натоўп людзей пенсійнага ўзросту, улічваючы славутага агента Томка, які, выконваючы функцыю дзяржаўнага залётніка, дачакаўся заслужанай пенсіі ў 35-гадовым узросце. Тваю працу даценьваюць таксама чарговыя мільёны іншых прывілеяваных дзяржавай асоб — паліцыянтаў, вайскоўцаў, шахцёраў і г.д. Усе яны чакаюць ад цябе поўнай адданасці працы. Дзякуючы таму, а хутчэй дзякуючы грошыкам, якія ты збіраеш на сваім пенсійным рахунку, дзяржава можа выплаціць ім пенсіі, рэнты і дапамогі. Таму не спыняйся ў працы. Сёння ты працуеш на пенсію свайго бацькі, заўтра твой сын зробіць гэта для цябе. Дарэчы, які прыгожы салідарызм пакаленняў. Толькі што кожная залатоўка, якую ўкладваеш у свой пенсійны кошык, праз 20-30 гадоў вернецца да цябе двойчы зменшаная на кошты ўзрастаючага публічнага даўгу. Можаш быць упэўненым амаль у ста працэнтах, што абцяжарыць ён таксама будучую пенсію твайго сына. На жаль, усё паказвае на тое, што сын твайго сына будзе прымушаны да пажыццёвай працы, а і так абыдзецца пенсійнай дуляй. Праўдападобна ўсе ягоныя пенсійныя здабыткі зжарэ чорная дзіра растучага публічнага даўгу. Сёлета налічвае ён 782 мільярды 964 мільёны злотых. Нават сабе не ўяўляй, да якой абсурднай вышыні вырасце яна праз 20-30 гадоў. Не ўяўляй, што нап'ешся ад адчаю, што паўплывае на эфектыўнасць тваёй працы. А тут трэба з адданасцю цыраваць дзіру. Цешся, што маеш работу, таму ары без перадышкі. Тым больш, што беспрацоўе сягнула ўжо ўзроўню 14,5%. Гэта значыць, што 2,5 мільёна людзей у працаздольным узросце не мае працы, значыць, не дакладваецца да пенсійнага кошычка, якога змесціва дзяржава ўжо даўно засвоіла амаль да дна. Між іншым для таго, каб аплачваць пенсіянераў. Аб шматтысячнай масе застаючыхся на дзяржаўным утрыманні па стане здароўя пенсіянераў, часта «з божай ласкі», ужо не ўспомню. І гэта адна з прычын растучага публічнага даўгу — не менш драматычная, чым некампетэнтнасць дзяржавы ў кіраванні публічнымі фінансамі. А яны ў катастрафічным становішчы. Таксама з-за фінансавай эміграцыі. Мяркуецца, што параўнальны з беспрацоўнымі лік грамадзян з'ехаў у пошуках працы за межы краіны. Найчасцей гэта маладыя людзі ў працаздольным і рэпрадуктыўным узросце. Яны ў ніякім выпадку не зоймуцца цыраваннем польскай дзіры. Іхняй працай пакарыстаюцца англічане ці італьянцы. Няма таксама чаго разлічваць на народжанае ў эміграцкіх парах патомства. Калі яно вырасце, не будзе ў яго галовах ані патрыятызму, у імя якога мелі б дабравольна ўпрагацца ў польскую бегавую дарожку бясконцай, малаплатнай працы без перспектыў на годнае жыццё і роўна годную пенсію. Нас штораз менш і нічога не паказвае на тое, каб гэты дэпапуляцыйны трэнд меў спыніцца. На канец застануцца ў Польшчы адны пенсіянеры, а калі і яны пагінуць, застанецца бездзяржаўнае поле плошчай 312 тысяч квадратных кіламетраў — з хвосцікам. Ды гэта не твая турбота. Пакуль што, працуй. Адрачыся ад адпачынку, патрабуй звышурочных, патрабуй права на працу ў суботы, нядзелі і святы. Гэта твая вялікая прывілея — праца. Не абманвай сябе, аднак. Сучаснае рабства абыходзіцца без кайданоў і назіральнікаў з бічамі. Калі думаеш, што ты свабодны грамадзянін, вельмі памыляешся. Ужо даўно ты стаў нявольнікам банкаўскіх крэдытаў. Не будзь наіўным — крэдытную пастку паставілі на цябе пры ціхім дазволе дзяржавы. Банкі таксама патураюць распрацоўшчыкам, вытворцам аўтамашын і іншых неабходных для пустапарожняга жыцця гаджэтаў, як дзяржаве, якая чэрпае з іхняй дзейнасці прыбыткі. Таму плаці тэрмінова падаткі — ці ад грунту, ці ад неба. Пагашай крэдыты. Будзь добрым грамадзянінам. Дарэчы, не маеш іншага выхаду. Кім бы ты быў без дзяржавы? Нікім. А чым ёсць дзяржава? Тваім судовым прыставам. Толькі чаму такім бязлітасным судовым прыставам?

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Грамадзянскі бюджэт



Першы раз кожны жыхар Падляшскага ваяводства, які конччыў 16 гадоў, можа прагаласаваць на абраны бюджэт у рамках ініцыятывы „Грамадзянскі бюджэт", — аб'явілі падляшскія самаўрадавыя ўлады. Можна выбіраць з ліку 25 праектаў, а паміж імі ёсць канцэрты, новыя інтэрнэтныя дадаткі, гарадскія гульні, мастацкія майстар-класы. Галасаванне праводзіцца праз укідванне карт у выбарчыя скрыні (карты можна ўзяць на сайце «Wrota Podlasia») у офісе Падляшскага сейміка, або пасылаючы па электроннай пошце запоўненую карту на адрас budzet@wrotapodlasia.pl. Голас аддаць можна да 11 сакавіка. У рамках „Грамадзянскага бюджэту" ёсць да размеркавання 100 тысяч злотых, ды дафінансаванне аднаго праекта не можа перавысіць 50 тысяч злотых. Галасаваць можна на два выбраныя праекты.

Згодна з афіцыйным камюніке, Падляшша з'яўляецца першым ваяводствам у Польшчы, якое дае магчымасць жыхарам вырашаць аб тым, на што будуць выдадзены грошы з касы ваяводства.

— Гэта першы выпуск. Людзі часта баяцца таго, што ёсць новым, ды мы маем тыя 25 праектаў і дзякуючы гэтаму пераканаюцца аб тым, што „Грамадзянскі бюджэт" гэта штосьці добрае і ў будучыні будзе іх значна больш, — пераканаўы быў у час прэс-канферэнцыі на тэму гэтай ініцыятывы Караль Пілецкі, падляшскі радны, старшыня камісіі скарбу і фінансаў Падляшскага сейміка, ініцыятар праекта.

Ідэя „Грамадзянскіх бюджэтаў" фактычна не рэалізуецца ўладамі іншых самаўрадавых ваяводстваў, але валадарам некалькіх гарадоў у Польшчы прыйшла ў галаву гэтая задума. Сярод іх ёсць Познань, Тарнаў, Дамброва-Гурнічая, Радам, Хожуў. Сама ідэя выклікае сярод тэарэтыкаў польскіх самаўрадаў у прынцыпе пазітыўныя эмоцыі, паколькі, як гэта адзначаюць, уключаецца гэта ў прапаганду г.зв. дэмакратыі ўдзелу. Аднак самыя прынцыпы вылучання праектаў шляхам галасавання ўжо выклікаюць сумненні. У выпадку „Грамадзянскага бюджэту" на Падляшшы — па-мойму — па-першае тут таворка пра свядомае галасаванне. Ні адзін з 25 праектаў змешчаных на сайце «Wrota Podlasia» не мае хаця б кароткага апісання, апрача пераліку назвы, прозвішчаў рэалізуючых асоб і сумы, за якую хадайнічаюць магчымыя будучыя бенефіцыянты. Іду ў заклад, што большасць з вас не скажа мне, як мела б на практыцы выглядаць рэалізацыя праекта «Падляшскі пачворк — культурныя візітныя карткі гмін Падляшскага ваяводства» ці «**Akademia Małolata Ciekawego Świata**», што скрываецца пад назвамі праектаў «**Urodziny Marszałka**», „Э-спорт як альтэрнатыўная і культурная форма папулярызацыі футбола для жыхароў Падляшскага ваяводства» ці «Вялікафарматная галерэя славутых падляшан». Не прадбачылі ў час галасавання ніякіх прамацыйных акцый заяўленых праектаў, што таксама ненайлепш сведчыць аб самых задумшчыках. На канец сама сума да размеркавання не кідае на калені. У гарадах, у якіх рэалізуецца праект „Грамадзянскага бюджэту" яна не меншая за 1 мільён злотых.

Аднак Караль Пілецкі прадбачвае:

— Калі грошы застануцца, Ваяводская ўправа можа рашыць аб дафінансаванні таксама трэцяга праекта. Пакуль гэта яшчэ пілотная праграма. Няма перашкод, каб у будучым годзе пазмагацца за большыя грошы.

Калі б хтосьці спытаўся ў мяне, на каго я аддам свой голас, адказваю: на праект заяўлены Беларускім аб'яднаннем студэнтаў — Фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча» (стараюцца за 25 тысяч зл.) ды заяўлены Гмінным цэнтрам культуры ў Нараўцы — «Шляхам мастацтва да ўласнай культуры» (хадайнічаюць за 50 тыс. зл.), хаця ў гэтым апошнім выпадку таксама не ведаю, што хаваецца за назвай праекта.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Юбілейны фестываль «Беларуская песня»

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

За намі ўжо раённыя элімінацыі XX Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2013», якія адбыліся ў Дуброве-Беластоцкай, Беластоку, Сямятычах, Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы. Сёлетні фестываль асаблівы па прычыне круглага юбілею, але гісторыя «Беларускай песні» даўжэйшая, бо гэтае музычнае мерапрыемства, як конкурсны агляд, пачало ладзіцца сорак тры гады таму назад. Пры нагодзе юбілею спевакі нашых калектываў успаміналі свае першыя выступленні якраз у час конкурсу «Беларусукая песня». Інструктары Беларускага грамадскага культурнага таварыства, якое ад пачатку арганізавала конкурс, а пасля фестываль «Беларуская песня», заахвочвалі засноўваць у нашых вёсках і гарадах беларускія калектывы, якія пасля прэзентаваліся на раённых і цэнтральных аглядах. У час гэтага вялікага беларускага мерапрыемства выконваліся перш за ўсё песні ў народнай манеры. Гучалі таксама аўтарскія творы, неапрацаваныя і апрацаваныя фальклорныя песні. Сёлета ў час пяці раённых аглядаў выступіла звыш 110 выканаўцаў, пачынаючы ад салістаў, а канчаючы на харах, разам каля 600 асоб. Паявіліся ў час элімінацый таксама новыя калектывы і новыя спевакі.


«Рэха пушчы»


«Цаглінкі»


«Знічка»

У час апошніх раённых элімінацый фестывалю «Беларуская песня», якія Галоўнае праўленне БГКТ наладзіла 17 лютага з дапамогай Гайнаўскага дома культуры ў тамашняй канцэртнай зале, выступіла 37 выканаўцаў, каля 200 асоб. На мерапрыемства прыбыло многа гасцей, а ў іх ліку консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Сувораў, ваводскі радны Мікола Яноўскі, мясцовыя самаўрадаўцы і прадстаўнікі культурных і адукацыйных устаноў Гайнаўскага павета. Беларускім калектывам Гайнаўшчыны была добрая нагода запрэзентавацца перад шматлікай публікай у канцэртнай зале. Многім мясцовым і прыезджым аматарам роднай песні прыйшлося стаяць у час агляду. Мерапрыемства адкрыў і прывітаў гасцей дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч, а старшыня ГП БГКТ і заадно ваяводскі радны Ян Сычэўскі звярнуў увагу, між іншым, на вялікую колькасць беларускіх калектываў у Гайнаўцы і на даўжэйшую, чым фестывальная, гісторыю «Беларускай песні», якая распачалася з конкурснага агляду ў 1970 годзе.

«Тыневічанкі» перасталі спяваць ужо даўно, а адносна нядаўна спынілі дзейнасць «Арэшкі». Абодва калектывы прэзентавалі неапрацаваны фальклор на вельмі высокім узроўні. Любіцелі фальклорных песень з настальгіяй успамінаюць выступы жанчын з Арэшкава і Тыневіч, якія шмат разоў перамагалі на цэнтральным аглядзе «Беларускай песні». У Гайнаўскай гміне спыніў дзейнасць калектыў з Дубін. З беларускім рэпертуарам стаў выступаць нядаўна арганізаваны калектыў з Махнатага, які ў верасні мінулага года прыняў назву «Жаваранкі». Адважна і дастойна запрэзентаваўся ён у час гайнаўскіх элімінацый.

— Мы распачалі сваю дзейнасць вясной і рашыліся назваць сябе «Жаваранкі». Падтрымліваем традыцыю нашай Бацькаўшчыны, спяваем свае песні. Фестываль «Беларуская песня» вельмі патрэбны, бо дапамагае захоўваць і прэзентаваць наш песенны рэпертуар, — сказаў Аляксей Герасімюк, ініцыятар заснавання махнацкага калектыву, а ўдала выступілі таксама калектывы з суседняй расспяванай Чыжоўскай гміны — «Чыжавяне» з Чыжоў, калектыў Прафсаюза пенсіянераў з Чыжоў, у якім выступілі жанчыны з курашаўскіх «Незабудак» і ў адноўленым складзе «Збучанкі» са Збуча. У іх выкананні апрацаваныя народныя песні перапляталіся з неапрацаваным фальклорам, якога апошнім часам на «Беларускай песні» штораз менш. Калі раней выходзілі на сцэну спевакі народжаныя ў міжваенны перыяд, часцей выконвалі фальклорныя песні, якія самі спявалі ў сваіх вёсках. Зараз, калі старэйшыя жанчыны рашаюцца выступаць з неапрацаваным фальклорам, то спяваюць часта песні, якіх навучылі іх сямейнікі. Можна яшчэ карыстацца спеўнікамі Сцяпана Копы, у якіх сабраны песні з нашых вёсак і так пэўна робяць некаторыя вясковыя калектывы.

— У час фестывалю можна пачуць усялякія песні. І сумныя, і вясёлыя, пра колішняе цяжкае жыццё і пра цяперашнія радасці. Цікава таксама паслухаць вясёлыя песні ў выкананні моладзі. Для сольных выступаў і для «Збучанак» я падбіраю песні, якія мама мая спявала і якія памятаю яшчэ з маладосці, без апрацоўкі. Такія песні нават больш складана спяваць, чым творы пад акампанемент, — сказала Кацярына Ціханюк са Збуча і дадала, што ў змененым складзе трыо таксама добра спяваецца і што зжылася яна ўжо з новымі спявачкамі.

Цікава і з вялікай ангажаванасцю запрэзентаваліся з фальклорам з тэрыторы Нарваўскай гміны «Падляшанкі» з Гарадзіска. Неапрацаваныя песні з дзяцінства ўдала заспявалі жанчыны з Дабрывады. Гурты, у якіх выступаюць маладзейшыя спевакі, напрыклад, «Цаглінкі» з Ляўкова ці «Чыжавяне», часцей рашаюцца выступаць на беларускай літаратурнай мове і часцей спяваюць аўтарскія песні. Іх музычныя кіраўнікі Мікола Мяжэнны і Юры Ганевіч прывозяць рэпертуар з Беларусі, а мясцовыя песні апрацоўваюць пад акампанемент. Абодва гэтыя калектывы на высокім узроўні выступілі ў Гайнаўцы. «Чыжавяне» запрэзентаваліся таксама ў жаночым і мужчынскім складах.

— Фестываль «Беларуская песня» гэта жыццё і радасць для нашых беларускіх калектываў, а таксама стымул для нашага развіцця, — сказаў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны.

— Беларускія песні нам вельмі падабаюцца і, нягледзячы на наш сталы ўзрост, хочацца яшчэ спяваць, — сказалі Люба Трусевіч і Вольга Раманчук з «Нараўчанак» з Нараўкі, якія цікава запрэзентаваліся ў Гайнаўцы ў павольшаным складзе, бо прыдбалі мужчын.

Славутая «Знічка» з Гайнаўскага белліцэя захапіла публіку як узроўнем выступу, так і сваёй маладасцю. Белліцэйскі калектыў выступіў у адноўленым складзе, але запрэзентаваўся на сцэне як вопытны гурт.

— Мы вельмі моцна зжыліся ў «Знічцы» ў час выезду ў Берлін, дзе перад Растовом Хрыстовым выступілі з калядкамі, таксама з шасцю новымі асобамі, якія спяваюць з верасня мінулага года. Лічым таксама ўдалым сённяшні выступ, — гаварылі Марлена Бяглюк і Дамініка Юшкевіч са «Знічкі», у якой выступае зараз таксама чатырох хлопцаў.

Вельмі дастойна запрэзентаваўся беларускі хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры, у тым ліку яго жаночая група. На высокім мастацкім узроўні выступілі дзяўчаты і хлопец са Студыі песні ГДК.

— Мы ў Студыі песні займаемся здаўна, але толькі ад мінулага года, калі падраслі, сталі выступаць на «Беларускай песні» для дарослых. Нам вельмі падабаюцца выступы на беларускім фестывалі таксама таму, што пасля нашага спявання да нас даходзяць вельмі станоўчыя водгукі ад публікі, — заявілі Адрыяна Прусіноўская і Марта Адамюк.

Адважна і з вялікай ангажаванасцю беларускія песні заспявалі калектыў з Гайнаўкі, створаны ўдзельнікамі майстар-класаў па працатэрапіі, і за гэты выступ публіка асабліва ім падзякавала.

— Мы ўжо амаль 4 гады спяваем і перш за ўсё выступаем з беларускім рэпертуарам. Можна сказаць, што зараз у нас два пакаленні — дачок і мам, — гаварыў Марк Зубрыцкі, кіраўнік калектыву «Ручаёк» Белавежскага асяродка культуры.

Публіка гарачымі апладысментамі прыняла выступ белавежскага гурту. Публіцы спадабаліся таксама выступленні вакальна-інструментальных калектываў «Арт-Пронар» з Нарвы і «Sherion» з Гайнаўкі. Спевакі з паасобных калектываў запрэзентаваліся яшчэ як салісты, дуэты, тэрцэты і квартэты і таму атрымалася так многа выканаўцаў, найбольш з усіх раённых аглядаў. У час гайнаўскіх элімінацый Валянціна Ласкевіч — сакратар Галоўнага праўлення БГКТ, якое наладзіла сёлетні фестываль дзякуючы фінансавай дапамозе Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы ў Беластоку і Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве РБ у Польшчы, паведаміла, што выканаўцы, якія былі кваліфікаваны на цэнтральныя элімінацыі, пачнуць выступаць у Філармоніі ў Беластоку, распалажанай па вуліцы Падлеснай, 24 лютага ў дзесяць гадзін. Гала-канцэрт XX Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2013» пройдзе 2 сакавіка ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку, па вуліцы Адэскай, і распачнецца ў шаснаццаць гадзін.

## Аб чаромхаўскім бюджэце

Сёлетні бюджэт Чаромхаўскай гміны складае 10 931 996 зл. на баку прыбыткаў і 10 465 745 зл. на баку выдаткаў. На канец мінулага года задоўжанасць гміны сягала 3 240 863 зл. Сёлета маркуецца ўзяць дадатковы крэдыт 400 тысяч зл., пры тым пагасіць узнос на суму 866 251 зл. У аб'ёме інвестыцыйных задач плануецца выдаць 1 261 502 зл., пакарыстаўшыся пры тым 914 890 зл. еўрасаюзных сродкаў.

Да важнейшых інвестыцый можна залічыць укараненне электронных паслуг для насельніцтва (II этап) — 123 400 зл. (104 890 зл. — ЕС + 18 510 зл. гміна) і закупка пажарных аўтамабіляў у рамках праекта „Ахоўваем Белавежскую пушчу" — 900 тыс. зл. (810 тыс. зл. еўрасаюзных сродкаў і 90 тыс. зл. уласных). У рамках уласных задач прадбачваецца выкананне ўцяплення і мадэрнізацыя святліцы па вуліцы Фабрычнай — 66 102 зл., выкуп права на вечнае карыстанне спартыўнымі пляцоўкамі ад ПКП — 35 тыс. зл., апрацоўка тэхнічнай дакументацыі на мадэрнізацыю гмінных дарог (вуліцы Аградовая і Дзюбуа) — 35 тыс. зл., апрацоўка тэхнічна-праектнай дакументацыі ачышчальні сцёкаў — 50 тыс. зл., закупка палявых участкаў з прызначэннем пад гмінныя дарогі — 35 тыс. зл., пабудова аўтобуснага дашка побач павятовай дарогі па вул. 1 Мая ў Чаромсе — 7 тыс. зл., ды закупка і ўстаноўка печкі ў рамантаваным будынку па вуліцы Фабрычнай — 10 тыс. зл.

У гэтым годзе на асвету і выхаванне прызначана 3 321 797 зл., на сацыяльную дапамогу — 1 945 490 зл., культуру і ахову нацыянальнай спадчыны — 295 000 зл., ды фізічную культуру і спорт — 99 400 зл.

Як бачым, не знайшліся сродкі на прадаўжэнне пабудовы вадасцёкавай каналізацыі. Не будзе таксама мадэрнізацыі вуліц ва ўрочышчы Каганка. Спадзяванні на еўрасаюзныя датацыі з „Дзяржаўнай праграмы лакальных дарог" аказаліся чарговай асечкай. У народзе кажуць: „Дзе коратка, там і рвецца". Так ужо суджана Чаромсе...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Польскія калядкі пад царкоўным купалам

3 лютага ў царкве ў Ольштыне адбылося экуменічнае набажэнства ў рамках Тыдня агульнай малітвы за адзінства хрысціян; сёлета адпраўляліся яны пад лозунгам „Чаго Гасподзь патрабуе ад нас?" Прысутнічала многа вернікаў.

Прыбылых прывітаў а. мітрат Аляксандр Шаломаў, падкрэсліваючы патрэбу ўзаемазбліжэння. У набажэнстве прынялі ўдзел духоўныя і свецкія госці, у іх ліку рэктар Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта прафесар Рышард Гурэцкі.

Гамілію сказаў каталіцкі біскуп Яцэк Язерскі. Падкрэсліў ён, што пачаткі экуменізму сягаюць сусветных войнаў, калі ў лагеры ваеннапалонных траплялі вернікі ўсялякіх рэлігій, зараджаючы братэрства і ўзаемаразуменне.

Завяршыў экуменічную малітву хор семінарыстаў ольштынскай Вышэйшай духоўнай семінарыі, які перад царскімі варотамі даў канцэрт традыцыйных польскіх калядак.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Як будзе з адходамі?

1 студзеня 212 года ўступіў у сілу новы закон аб захаванні чысціні і парадку ў гмінах. Яго мэта — абмежаваць забруджванне навакольнага асяроддзя бытавымі адходамі, якіх паяўляецца штораз больш і больш. Пэўна закон, які ўскладвае на гмінныя самаўрады абавязак найпазней ад 1 ліпеня гэтага года ўвесці новыя прынцыпы абыходжання з адходамі, спрычыніцца да абмежавання забруджвання асяроддзя, але паяўляецца пытанне, ці патрэбны быў ажно новы закон у такім выглядзе як цяперашні, каб зрабіць больш цывілізаваным абыходжанне з адходамі? Адказы на гэтае пытанне — розныя, часта залежныя ад таго, у якім асяроддзі іх паставіць. Больш радыкальных крокаў у галіне абмежавання забруджвання навакольнага асяроддзя патрабавалі экалагічныя арганізацыі, але ўжо ў многіх гмінных самаўрадах новы спосаб абыходжання з адходамі не выклікае энтузіязму. Сярод звычайнага насельніцтва новыя вырашэнні крытыкуюцца.

Прыхільнікі новай палітыкі ў галіне адходаў могуць сказаць, што падобныя вырашэнні спраўдзіліся ў заходніх краінах і няма падстаў меркаваць, што не прымуцца ў нас. Аднак іншыя могуць пераконваць, што ў нас нізкая экалагічная свядомасць насельніцтва і перш за ўсё трэба працаваць у напрамку яе павышэння, а адміністратыўныя загады трэба ўводзіць пазней. Практычна ў кожным новым варыянце, які могуць прыняць да рэалізацыі гмінныя радныя, плата за адходы не будзе адлюстроўваць сапраўднай іх колькасці вырабленай паасобнымі асобамі і сем'ямі. У адным з варыянтаў, які найчасцей прымалі да рэалізацыі нашыя радныя, прадбачваецца штомесячная аднолькавая плата ад душы, незалежна ад колькасці і разнароднасці вырабленых адходаў. Маладыя людзі, якія масава карыстаюцца фольгавымі пакетамі, купляюць многа харчавання ў пластмасавых упакоўках, ездзяць на машынах, ад чаго таксама застаюцца адходы, купляюць бытавую электратэхніку, цяпер будуць плаціць за адходы столькі ж, колькі і жыхары ў пенсіённым узросце, якія прадукуюць адносна мала адходаў. Калі старэнькія людзі не рашацца сартаваць адходаў, будуць мусілі плаціць яшчэ ўдвая больш, чым тыя маладыя, што будуць іх сартаваць. Аўтары новага закону далі гмінным радным магчымасць назначаць плату за адходы таксама паводле дамовых сямействаў, незалежна ад колькасці жыхароў у іх, але залежна ад жылой плошчы або колькасці спажытай вады. Калі нашыя радныя аналізавалі ўсе магчымыя варыянты збору сродкаў на абясшкоджванне адходаў, часта прыходзілі да вываду, што плата за рэальна выробленыя адходы, як было да гэтай пары, была найбольш аб'ектыўнай. У гмінах, дзе пражываюць беларусы, раднымі найчасцей прымаліся пастановы аб плаце за адходы паводле колькасці жыхароў, пражываючых у паасобных дамах і кватэрах.

— Нашыя радныя прынялі пастанову, што за сартаваныя адходы ад кожнай пражываючай у нас асобы трэба будзе заплдаціць па 6 злотых на месяц, а за несартаваныя адходы — па 12 злотых на месяц, — пачаў расказваць войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі, які бачыць у новых вырашэннях таксама карысці. — Дагэтуль многа ўласнікаў дамоў у нашай гміне не здавалі адходаў камунальнаму прадпрыемству і таму ў розных месцах паяўляліся нелегальныя звалкі, якія трэба нам будзе вывезці на гмінны кошт. Калі цяпер усе жыхары заплацяць за ўтылізацыю адходаў, то без дадатковых коштаў будуць маглі здаваць адходы прадпрыемству, якое шляхам таргоў будзе намі выбранае для збору адходаў у нашай гміне і такім чынам павінна абмежавацца забруджванне асяроддзя.

Радныя Дубіцкай гміны не рашыліся на плату за збор адходаў паводле колькасці спажытай вады і на плату паводле жылой плошчы, бо гэта, паводле іх, намнога больш неаб'ектыўныя спосабы разліку. У час дыскусіі паявілася прапанова, каб рабіць разлікі залежна ад хатніх гаспадарак, але гэтая ідэя не атрымала падтрымкі, бо адзінокія пенсіянеры мусілі б плаціць столькі, што і вялікія сем'і.

— Спосаб разліку на кожную душу асобна я не лічу цалкам аб'ектыўным, але найбольш аб'ектыўным з магчымых варыянтаў. Гэта агульнапольская праблема і можа з цягам часу паявяцца новыя спосабы разліку, больш аб'ектыўныя. Можна было б увесці нейкую невялікую роўную плату для ўсіх жыхароў, а сем'і, якія прадукавалі б больш адходаў, маглі б даплачваць за іх. Ужо і зараз ёсць адходы, якія паяўляюцца ў сельскіх гаспадарках і якіх нельга будзе здаваць бясплатна, напрыклад, фольга з-пад сілосаў. Канкрэтна названыя сельскагаспадарчыя адходы і адходы з мясцовых прадпрыемстваў будуць здавацца за дадатковай аплатай, — сказаў войт Лявон Малашэўскі.

Жыхары Дубіцкай гміны атрымаюць фольгавыя мяшкі і будуць мусілі купіць па адным пластмасавым умяшчальніку, напрыклад, адкупіць тыя кантэйнеры, якімі зараз карыстаюцца, і ў іх будуць сартаваць адходы. Што тычыцца буйнагабарытных адходаў, халадзільнікаў, тэлевізараў ці мэблі, то плануецца збіраць іх раз на нейкі час, у вызначаных месцах у гміне.

— Я выказваюся за ахову навакольнага асяроддзя. Новыя прынцыпы абыходжання з адходамі паправяць яго ахову. Аднак лічу, што была магчымасць мадэрнізаваць збор і сартаванне адходаў паводле старых прынцыпаў і можна ж было павысіць экалагічную свядомасць насельніцтва пры старым спосабе абыходжання з адходамі. Працэдура сартавання адходаў не надта складаная, але найстарэйшым жыхарам складана цяпер растлумачыць усе прынцыпы сартыроўкі. Мы заахвочваем насельніцтва сартаваць адходы, бо гэта дазволіць здаваць іх танней. Думаю, што з часам сартаванне стане лягчэйшым, бо ж людзі будуць вучыцца, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк.

У Гайнаўскім павеце радныя паасобных гмін прынялі пастановы аб аплатах за адходы, залежна ад колькасці асоб пражываючых у дамах і кватэрах. Да канца сакавіка жыхары павінны ў гмінных установах дэкляраваць колькасць асоб фактычна пражываючых у дамах. Напрыклад, за прапісаных на пастаяннае жыхарства дзяцей, якія жывуць па-за бацькоўскім домам, не трэба будзе плаціць.

— У нас амаль усе будуць тратнымі фінансава ў выніку новых разлікаў у параўнанні са старым спосабам збору адходаў. Але нельга абвінавачваць у гэтым ні нашых радных, ні нашага войта, які многа стараецца, каб палепшыць жыццё ў гміне. На маю думку, выбралі яны самы лепшы спосаб, залежны ад колькасці пражываючых асоб. Можа і будуць нейкія асобы, якія цяпер здавалі многа адходаў і пасля ўраўнілаўкі заплацяць менш, але такіх будзе ў нас вельмі мала. Гэта парламентарыі прынялі новы закон аб абыходжанні з адходамі, дзякуючы якому нашыя жыхары будуць мусілі плаціць больш грошай за здаванне адходаў, а камунальныя прадпрыемствы, якія будуць збіраць і сартаваць адходы, нядрэнна заробяць на гэтым. Людзі наракаюць, але што ж мы зробім? Не завяжам жа рэвалюцыі супраць новага закону. Вымушаны будзем дастасавацца да новых прынцыпаў абыходжання з адходамі, — заявіў солтыс Чыжоў і заадно пісьманосец у вёсках Гайнаўскай гміны Яраслаў Бялькевіч.

Аднак зараз хіба найбольш цяжка ўявіць, у якіх умовах жыхары кватэр у блоках будуць маглі сартаваць адходы, калі і цяпер вандаламі знішчаюцца невялікія ўмяшчальнікі для раздзельнага збору бытавых адходаў побач блокаў. Цяжка будзе спраўдзіць, хто выносіць сартаваныя адходы, а хто несартаваныя. Маркуецца, што ў Гайнаўцы новыя платы за сартаваныя адходы (6,27 зл. ад душы) будуць падобнымі, як былі платы дагэтуль ад асобы за несартаваныя адходы з блокавых кватэр. Калі надалей будуць здавацца несартаваныя адходы з кватэр у блоках, плата за іх павысіцца прыблізна ўдвая, бо прадбачваецца 12,54 зл. ад асобы. Ужо хутка акажацца, як будзе сапраўды, бо можа неяк удасца сартаваць адходы і жыхарам блокаў.

# У Шудзялаве на мясаеда

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Міжнароднае слова „карнавал” не было папулярным у часах маладосці сённяшніх бабуль з падкрынскіх ці падшудзялаўскіх вёсак. Зімовы перыяд вяселляў, хрысцін ці танцавальных вечарын ад вякоў называлі тут „мясаедам”. Паходжанне гэтага слова звязанае з мясам, якое без абмежаванняў спажывалі да масленіцы — перадапошняга тыдня перад Вялікім постам. З цягам часу навакольныя вёскі пачалі адміраць і разам з імі зніклі родная мова і традыцыі.


Выстаўка

Цяперашняе грамадскае жыццё сялян праходзіць перш за ўсё ў публічных установах. Вядома, цывілізацыйны прагрэс з’яўляецца неразлучнай яго часткай. Не трэба здзіўляцца, што вясковыя гаспадыні хочуць гуляць у рытме папулярнай музыкі, апранутыя ў самыя апошнія навінкі свету моды, з тварамі скрытымі за майстэрскімі слоямі супер’якаснага макіяжу.

Гмінны асяродак культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве добра ведае як прыцягнуць да сваіх ініцыятыў жыхароў наваколля. У пераважнай большасці жаночы калектыў работніц культуры чарговы раз даказаў, што можна быць супермодным, спалучыўшы цывілізацыйны прагрэс з традыцыяй. Менавіта ў такой ураўнаважанай атмасферы праходзіла шудзялаўская жаночая мясаедная сустрэча. Чарговы раз за супольны стол селі розныя пакаленні гаспадынь, між іншым, з Піражкоў, Астраўка, Кнышэвіч, Слоі, Казловага Луга, Вярхлесся і Шудзялава. Зімовыя сустрэчы сталі ўжо сталым пунктам гміннай забаўляльнай праграмы. Дваццаць першы раз прайшлі яны пад лозунгам „Быць жанчынай”. Хоць мерапрыемства, як не дзіўна, было прысвечана перш за ўсё прыгожаму полу, але і мужчынам уступ быў свабодны. У гэты раз імпрэзу сваёй прысутнасцю ўдастоіў адзін з лепшых земляробаў ваяводства — жывёлавод з Разадранкі-Старой Станіслаў Варанецкі. Прыбыў ён сюды невыпадкова. Арганізатары сустрэч стараюцца не паўтарацца, кожны год прыдумваючы новыя тэмы і атракцыёны. Менавіта авечкі сталі галоўным пунктам сёлетняй праграмы. Спадар Станіслаў славіцца асобымі поспехамі ў авечкагадоўлі. Гэты вельмі элегантны па выглядзе і паводзінах мужчына падрыхтаваў сабраным цікавую мультымедыйную прэзентацыю на тэму сваёй штодзённай працы. Прысутныя маглі пазнаёміцца з сакрэтамі паспяховага сучаснага гаспадарання, пабачыць на фотаздымках чыстыя, задбаныя хлявы і самую навейшую сельскагаспадарчую тэхніку. Жывёлаводства, відавочна, з’яўляецца сапраўдным захапленнем Станіслава Варанецкага. Усё ж такі ён прызнаўся, што за прафесіянальны поспех удзячны перш за ўсё сваёй жонцы, самай лепшай і надзейнай жыццёвай памочніцы.

Тэму авечак кранала таксама фотавыстаўка ў фае будынка аўтарства вядомага ў наваколлі фатографа, а па прафесіі лесавода, Пятра Юхі.

Адным з асноўных пунктаў мерапрыемства была вялікая выстаўка шарсцянога рукадзелля. Амаль усе прысутныя прынялі ўдзел у яе стварэнні, прывозячы з сабой уласнаручна зробленыя экспанаты. Не цяжка здагадацца, што асноўным матывам экспазіцыі была жаночая вопратка, адмысловыя свіцеры і сукенкі ў большасці ў натуральных, шэра-бэжавых колерах. Некаторыя рукадзельніцы



аднесліся і да больш адважнай стылістыкі, карыстаючыся ў сваёй працы яркай зеленню ці жывой чырванню. Адна з найстарэйшых удзельніц спаткання, Таіда Радзівануўская з Шудзялава прынесла, між іншым, доўгія, шарсцяныя панчохі, неабходны элемент зімовага гардэробу колішняй жанчыны. Не магло тут абысціся і без кажуха. Хаця адыходзіць ён у штораз адлеглейшую гісторыю, то на ўзгаданай выстаўцы заняў самае ганаровае месца. Цяперашнія жанчыны рэдка калі ў яго апранаюцца. Больш папулярнымі сталі рознакаляровыя, пуховыя курткі і плашчы масавай прадукцыі. Ніхто ўжо не носіць адмыслова вязаных, шарсцяных шапак і берэтаў, якімі пахвалілася тут майстрыха на ўсе рукі Іраіда Гаспэрчык з Шудзялава. Яны былі вельмі папулярнымі ў сямідзесятых і васьмідзесятых гадах XX стагоддзя і добра спалучаліся з кажухамі.

Вельмі ўсім сападабаліся шапкі, падушкі і ўсякага тыпу адмысловыя лямцавыя аздобы ўласнаручна створаныя Ганнай Сянкевіч з падкрынскіх Лапічаў. Такога тыпу творчасць здабывае штораз большую папулярнасць і запатрабаванасць на сусветным рынку моды. Усё-такі ва ўзгаданай экспазіцыі вырабы спадарыні Ганны гарманічна перапляталіся з больш традыцыйнымі творамі самародных рукадзельнікаў. Дзякуючы падтрымцы дырэкцыі Музея Сакольскай зямлі сабраныя маглі паўспамінаць і самыя даўнія часы. Менавіта з Саколкі былі прывезены старыя, каляровыя дываны і прылады для апрацоўкі воўны. Былі і каляровыя паясы. Найстарэйшыя ўдзельніцы спаткання ўзгадвалі, што калісь такімі паясамі перавязвалі яны сваіх нованароджаных дзяцей. Тады пояс быў абавязковай часткай народнага адзення, яго выкарыстоўвалі і ў шматлікіх абрадах.

Мясаедная сустрэча праходзіла за вельмі шчодрым сталом поўным хатніх пірагоў, мяса і ўсякага тыпу салатаў. Усё ж такі цвіком сёлетняй, кулінарнай часткі мерапрыемства была бараніна. Загадзя дырэкцыя Гміннага асяродка культуры аб’явіла конкурс на найлепшую страву з бараніны. У падрыхтоўку ўключыліся таксама ўсе культработніцы шудзялаўскага асяродка. Сапраўды, конкурснае меню атрымалася асабліва разнародным і смачным. Выбар пераможцаў аказаўся амаль немагчымым, паколькі ўсе ўдзельніцы сваімі стравамі ўвялі ў захапленне паднябенні членаў конкурснага журы. З-пад рук шудзялаўскіх гаспадынь павыходзілі, між іншым, непаўторныя ў смаку варэнікі, галубцы, паштэты ці арыгінальныя кампазіцыі бараніны з брындзай. Асабліва смакавала сакавітая бараніна ў хатняй квашанай капусце і шашлыкі Аліны Станіслаўюк з Астраўка. Эва Кузьміцкая з Шудзялава рассмакавала конкурсную камісію вялікай місай печанай бараніны з агароднінай.


Эва Кузьміцкая — адна з лепшых гаспадынь Шудзялаўскай гміны

Арганізатары паклапаціліся таксама пра невялікія падарункі ўсім удзельніцам мясаеднага спаткання. Не магло абысціся і без танцаў, якія былі апошняй часткай вельмі ўдалай жаночай сустрэчы.

## Чаму так?..

Ад некалькіх гадоў прыкмячаю як жыхары Кляшчэлеўскай гміны ў належны спосаб распараджаюцца салэцкім фондам. Прызначаныя грошы выкарыстоўваюць на абсталяванне вясковых святліц, папраўляюць даязныя дарогі, добраўпарадкоўваюць пляцоўкі пры вясковых клубах, будуюць дашкі на аўтобусных прыпынках, а нават арганізуюць культурныя імпрэзы. У Чаромхаўскай гміне цішыня. Праўда, у мінулым і кузаўцы карысталіся гэтай дабрадзейнасцю. Купілі малацільны агрэгат, які шмат гадоў служыў сялянам. Але з заняпадам сельскай гаспадаркі стаў ён непрыдатным і гаспадары здалі прылады на металалом.

Калі я кранаў праблему салэцкага фонду ў размовах з раднымі, пачуўся такі адказ: „Малыя грошы, каб штосьці зрабіць. Няхай застаюцца ў гміне”. У адным годзе гміна нешта зробіць для адной вёскі, у наступным для іншай. А спадарыня скарбнік на маё пісьмовае выступленне адказала, што Рада гміны прыняла пастанову аб адмове стварэння салэцкага фонду ў 2013 годзе. Паінфармавала таксама на якія мэты такі фонд мог бы быць прызначаны (паляпшэнне ўмоў жыцця і ліквідацыя наступстваў стыхійных бедстваў), а ў канцы падкрэсліла, што мэтазгоднасць стварэння салэцкага фонду штогод абмяркоўваецца на вясковых сходах.

Дзіўным здаецца быць такая аргументацыя. З таго, што прыпамінаю, хоць удзельнічаю ва ўсіх вясковых сходах, у Кузаве гэтая праблема не ставілася. Мо памыляюся, але гэта праўда.

Кожная гміна мае праблемы з фінансамі. У народзе кажуць, што жыць трэба па сваіх даходах. Але пры гэтым трэба ўлічваць гаспадарскую кемлівасць. Калі параўнаць бюджэты Кляшчэлеўскай і Чаромхаўскай гмін, яны амаль аднолькавыя і змяшчаюцца ў інтэрвале 10-11 мільёнаў злотых. Але ў працэсе рэалізацыі інвестыцыйных задач вынікі бачны ўжо простым вокам. Каментарый, здаецца, тут непатрэбны.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Прыстрэшкі, якія нікому не служаць

Ёсць такія паветкі-дашкі на аўтобусных прыпынках ПКС пры ваяводскай асфальтаванай шашы з Міхалова ў Юшкаў Груд і далей у Бандары і Нараўку. Стаяць яны ў Ляўшах-Імшары, у Баршчэве-Юльянцы і ў Юшкавым Грудзе. Першы з іх, той у Ляўшах, знаходзіцца ў зарасніках на тамашніх тарфяніках. Тут здаўна не спыняюцца аўтобусы ПКС. Ён за крутым паваротам і няма тут дамоў. Другі пабудавалі ў Юльянцы на ўзгорку і да таго на павароце. Ужо шмат гадоў тут не тармазіць ні адзін рэйсавы пасажырскі аўтобус ПКС. Новы прыпынак у іншым месцы — перад паваротам. У Юшкавым Грудзе пабудавалі прыгожы прыстрэшак перад скрыжаваннем дарог. Ды зараз дошку з эмблемай ПКС перанеслі за скрыжаванне на дарогу ў Бандары і тут выходзяць пасажыры. Вось такія дарожныя абсурды.

Варта дадаць, што 40 гадоў таму паветкі будавалі з тоўстых пустакоў, між іншым у Ляўшах-Імшары і ў Юльянцы. Яны быццам бы будынкі з трыма сценкамі і дашком. Шкада, што цяпер ужо нікому яны не служаць.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

# Валяншінкі ў Нараўцы

Да нашых сяброў у Нараўку мы завіталі ў дзень закаханых, на „Валяншінкі”, 14 лютага г.г. Раней мы дамовіліся на сустрэчу ў пятым класе. Калі мы пераступілі парог класа, там заняты працавалі. Дзяўчаткі ў найбольшым засяроджанні рашалі крыжаванкі і конкурсы ў „Зорцы”, каб яшчэ ў той самы дзень дасляць іх у рэдакцыю „Нівы”.

— Дзеці вельмі любяць вашу старонку, — кажа Ліля Тарасевіч, настаўніца беларускай мовы і заадно дырэктар школы, — і аж гарацць, каб на ўроку працаваць з „Зоркай”.

Сярод любімых рубрык дзеці назвалі беларускія вершы (!). Невыпадкова, у пятым класе аж чатырох паэтаў (на дзевяць асоб). Уля Марчук, Магдаліна Бяляўская, Караліна Каравай і Мая Радзіванюк прымалі ўдзел у Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Як не цікава, іх вершы — насычаныя духам Белавежскай пушчы. Старажытны лес відаць праз вокны мадэрнай нараўчанскай школы...

Спачатку дзяўчаткі распавялі пра сваю любімую кніжку, з якой сябруюць ужо з трэцяга класа. Гэта „Мышка Пік-пік” Людмілы Рублеўскай.

— Мне найбольш падабалася апавяданне пра тое як мышка памалявала сабе валасы ў цыбульніку. У хаце напалохаліся, бо думалі, што ў яе разбітая галава, — кажа Мая Радзіванюк.

— А я люблю гісторыю як мышка рамантавала тэлевізар малатком, — дадала Аляксандра Куптэль.

Аказваецца, у кожнага з нашых сяброў была ўлюбёная гісторыя і кожны па чарзе хацеў расказаць пра самавітую мышку...

— Вы хоць самі не фарбуйце валасоў у цыбульніку! — пажартавала настаўніца. У класе аднак ведалі, што цыбульнік прыдатны для фарбавання велікодных яек.

Апошняя вестка цудоўна пераклікалася з народна-этнаграфічным інтэр'ерам залы. Нараўчанскія вучні дапамагалі настаўнікам збіраць старыя прылады, вышыванкі.

Каб падарыць нешта на памяць ад нашай сустрэчы, мы ўспомнілі як нарадзілася іх любімая гісторыя пра мышку Пік-Пік. Людміла Рублеўская, вядомая пісьменніца, якая жыве ў Мінску, напісала іх для „Зоркі”. Усе прыгоды аздаблялі малюнкі дачушкі пісьменніцы Веранікі Шніп (у кніжцы яна Веранічка). Многія прыгоды былі дасланы поштай, частку з іх прывезла ў сваім рукзаку рэдактар Міра Лукша, якая часта наведвала дом пісьменніцы ў Мінску. Усё гэта дзеялася ў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Зараз кніжка дачакалася трох выданняў, між іншым,







выйшла ў Беластоку. Якраз гэтае выданне, дзякуючы бацькам з арганізацыі АБ-БА трапіла ў нашыя школы. Яно найпрыгажэйшае з усіх (дызайн прыдумаў Адам Паўлоўскі з „Нівы”).

Вядома, не абышлося без мастацкіх сюрпрызаў. Дзяўчаткі і адзіны на клас хлапец Адам праспявалі нам „Камарочка”.

— А можа хто сам яшчэ штосьці заспявае, — прапанавала настаўніца. Выклік падняла прыгожая Караліна Каравай і кранальна праспявала нам „Захварэў мой бедны коцік”. Пасля мы супольна гадалі загадкі, якія прыдумала спадарыня дырэктар.

На канец сябры падарылі нам „Валяншінку” з мядзведзікам. І адзначылі, што ў іх ёсць яшчэ славянскае свята кахання „Купалле”. Ад гэтага слоўца запахнела вясной, цёплай вадой у рэчцы і морам палявых кветак, з якіх хацелася сплесці вянок ды паспяваць беларускія песні.

**ЗОРКА,**
**фота Ганны Кандрацюк і Улі Шубзды**

# Загадка №8 (13)

Сёння вашай увазе прапануем загадку, якую пачулі мы ў Нараўцы. Адказы дашліце ў „Зорку” да 3 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Стаіць у лазе
на адной
назе.

Адказ на загадку № 4-13: **Комін:** — А хто бачыў такі нос, каб на ім бярознік рос?

Узнагароду — **значок з Пагоняй** — выйграла **Уля Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

## Вершы Віктара Шведа

### Чаму выйшла замуж?

Цётка адведала Адама,
Яе сардэчна прывітаў.
— Чаму другі раз выйшла замуж? —
Ён цётку раптам запытаў.

— Жыццё ў самоце
— турма быццам,
Канца ў самоце не відаць.
Няма з кім нават пасварыцца,
Няма каму рукі падаць.

### Чаму не мае дзяцей?

Цётку запытаў Андрэй:
— Чаму не мае дзяцей?
Цётка сказала сумнавата:
— Тут вінаваты мой цыбаты.

— Калі ў гэтай, цётка, скрусе
Вінаваты толькі бусел,
Тады вядома ж, цётка Оля,
Не будзеш мець дзяцей ніколі.

# Пра што піша вучань?

Часта, калі прымаем удзел у беларускім літаратурным конкурсе, перажываем пакуты. Пра што пісаць? Якія тэмы тут падыходзяць? Што зацікавіць журы?

У нас адказ просты. Нічога не трэба рабіць насілу, прыдумваць сенсацыі, пісаць пад дыктоўку, перапісваць іншых! Не, трэба пісаць пра свой свет, свае зацікаўленні, адносіны да людзей і прыроды. Мне вельмі спадабаўся верш нараўчанскай вучаніцы Магдаліны Бяляўскай пад загалоўкам „Цар”. Тут ужо сама тэма незвычайная — верш пра цара, уладара неіснуючай імперыі. Няма сумненняў, што Магдаліна захопленая гісторыяй. Да таго гісторыяй найбліжэйшага наваколля.

Прачытайце і паслухайце як казачна гучыць яе верш! Няма ў ім халоднай гістарычнай інфармацыі. Наадварот, аповед пяцікласніцы напамінае сямейны расказ, пачуты ад любімага дзедка ці прабабулі...

А Магдаліна напісала яго па-сучаснаму, так, каб пра гісторыю роднага кута расказаць сваім сябрам. Брава!

PS. У наступнай „Зорцы” мы спытаем у Вас пра якога цара тут мова.

**Зорка, фота Ганны Кандрацюк**




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ

## Цар

Цар магутны быў перад намі
У Белавежы са сваімі сябрамі.
На паляванні ён тут абжыўся
І ў пушчы Белавежскай пасяліўся.
Парабілі яму праекты
Сапраўдныя рускія царскія архітэктары.

Пабудаваў Мікалай палац вялікі,
Хадзіў ахвотна па агародах вялікіх.
Горды з работы, далей паляваў,
Але свет іншую долю яму малябаў.
Не стала цара і яго сям'і,
А белавежскі палац стаяў на гэтай зямлі.
Шкада, што цяпер старыя вяскоўцы
Паказваюць палац толькі на паштоўцы.

# Музыка з кайфам

## Доўгачаканы рэліз



http://shuma.by

Рэліз — слова, якое абазначае проста запіс, музычную рэалізацыю. Паясняю, бо можа не ўсе сустрэліся з гэтым словам, а сёння якраз пра новы рэліз праекта „Shuma”.

Безумоўна, варта ўзгадаць гэтую прадукцыю і адзначыць прысутнасць гэтага праекта ў музычнай прасторы. Будзе ўжо год, калі размаўляю з Русяй, лідаркай праекта, аб магчымасці сарганізаваць канцэрт. А яна кожны раз сціпленька адказвае, што „не напрацавалі яшчэ столькі матэрыялу”. А зараз ужо чуем жаваранкавыя ноты, якія нясуць адказ, што прыбліжаемся да гэтага моманту, бо з'явіўся першы міні-альбом „Золак”. Пакуль гэта толькі шэсць трэкаў, так што поўнафарматнай прэзентацыі не зробіш (калі верыць, што няма больш песень ці ідэй — а напэўна яны ёсць!), таму пакуль застаецца слухаць. А ёсць чаго слухаць і, паверце, гэта вялікая асалода ў чаканні. Не так даўно прэзентавала я тут альбом „Południce/Elektronice” як цікавую, энергетычную рэч. Зараз хачу сказаць, што „Золак” гэта ўжо іншы ўзровень думання пра спалучэнне электронікі і народнай творчасці, больш арганічны. Такія і першыя рэцэнзіі наконт запісу: „Дзякуй за доўгачаканы рэліз”, „Дзякуй, цудоўна”, „Клёва” і гэтак далей. Без ніякіх сумненняў магу сказаць, што няма ў тым ніякага перабольшання. Гэта проста якасная, прыемная музыка, высокі ўзровень не толькі вакальных выкананняў, але перш за ўсё выдатныя электронныя аранжыроўкі, якія супольна ствараюць новы музычны свет. Не паўтараецца тут ідэя спалучэння такой ці іншай музыкі. Гэта свой свет, у якім ёсць месца для арыгінальных гісторый, якія хаваюцца ў песнях, пазбіраных на тэрыторыі Беларусі на працягу дзесяткаў гадоў даследаванняў роднага фальклору. У ім ёсць месца і для ненахабных мелодый і рытмаў, якія, нібыта коўдра, абдымаюць мілагучныя словы. Усё плыве, таму так хочацца, каб плылі не толькі ў інтэрнэце. Яшчэ раз прадстаўляю міні-альбом праекта „Shuma” пад загалоўкам „Золак”.

**i_basovka@o2.pl**

# Зямля прачынаецца

Сяргейка саскочыў з ганка і пабег па сцяжынцы, што вядзе ў сад. Там хлопчык убачыў дзядулю. Ён зграбаў леташняе лісце.

— Навошта ты гэта робіш? — спытаў Сяргейка.

— Трэба, унучак, — адказаў дзед. — Збярэм лісце — зямлі лягчэй дыхаць будзе. Яна ж цяпер пасля зімы прачынаецца.

Ніколі Сяргейка не чуў, што зямля дыхае, мусіць дзядуля жартуе.

— А як жа яна дыхае?

— А ты прыглядзься больш уважна, — сказаў дзед. — Тады і ўбачыш.

Сяргейка паглядзеў у адзін бок, у другі. У ранішніх праменях сонца падымаліся ледзь прыкметныя струменьчыкі пары...

***П. Ткачоў***

# Польска-беларуская крыжаванка № 8

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4:**

Чарапаха, ха, свята, сняжынка, лес, выгляд, но, маг. Час, слых, снег, вясло, пляж, ты, Аня, на, абарот.

Узнагароды, запісныя кніжкі і аўтаручкі з лагатыпам інтэрнэт-бібліятэкі „Камунікат”, выйгралі **Іаанна Лукша, Аня Бяляўская** з Нараўкі, **Тамаш Федарук, Давід Ясюк, Марыся Сіроцкая, Клаўдзія Галінская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Якуб Цішук** з ПШ № 4 у Беластоку, **Нікаліна Кучынская, Юлія Скарбіловіч, Каміля Мазурук** з Бельска-Падляшскага, **Марыюш Красько** і **Оля Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Czoło | | Prąd | | Przy-laszczka | Łasica | | Sanki |
| | | | Płacz / Stodoła | | | | |
| | | Sklep | | | | | Kolano |
| | Brzytwa / Klasyk | | | | | | |
| | Kiero-wnice | | | | | | |
| Plecaczek / Wiąz | | | | | | | |
| | Mięso | | | | | Jak | |
| | | | | | Jan | | |
| | Ona | Znaczek | | | | | |

## Беларуская мова, шчасце і грошы!

Развіццё гміны гэта не толькі адрамантаваныя дарогі і новыя ачышчальні сцёкаў. Важна, каб звычайны чалавек адчуў сябе лепшым, прыдатным грамадству. У гэтым плане неабходная культура духу. На старонках «Нівы» важнае месца займае праблема аховы роднай мовы. Зараз, калі беларуская меншасць з году ў год знікае як снег вясною, з'явіліся фінансавыя сродкі ў падтрымку і развіццё беларускай мовы. Вялікае значэнне ў псіхалагічным сэнсе маюць двухмоўныя ўказальнікі мясцовасцей ды ўвядзенне беларускай мовы ў якасці дапаможнай для адміністрацыйнага карыстання. Гэтая з'ява не толькі важная ў псіхалагічным сэнсе (калі людзі маюць свядомасць што іх дзеянні законныя, менш баяцца), але і карысная ў эканамічным сэнсе. Карацей кажучы, дзякуючы беларускай мове можна больш зарабляць! Падумаеце, а дзе ж так ёсць на свеце? Прыкладаў не трэба шукаць за гарамі.

— У нас усе працаўнікі гміны, якія маюць пасведчанне, што ведаюць беларускую мову, а тут хопіць паказаць пасведчанне з беларускага ліцэя, зарабляюць больш чым апошнія. Яны атрымліваюць дзесяць працэнтаў дадатку да зарплаты «за веданне мовы»! — кажа войт Нараўкі Мікалай Павільч.

На фінансавы дадатак самі запрацавалі ў гміне. Тры гады таму тут прынялі закон аб увядзенні беларускай мовы як дадатковай у адміністрацыйным карыстанні.

— А ці нехта ўжо прынёс да вас прашэнне ў нейкай справе на беларускай мове? — пытаем войта.

— Не было яшчэ такога выпадку.

На здаровы розум, да такога дзеяння павінны заахвочваць працаўнікі, якія атрымліваюць фінансавы дадатак за мову. Магчыма, гэта паспрыяла б зацікаўленню вывучэннем беларускай мовы ў школе, з якой у Нараўцы шмат праблем.

— З году ў год усё менш у нас навучэнцаў беларускай мовы, — кажа Ліля Тарасевіч, дырэктар Комплексу школ у Нараўцы. — Людзі сталі больш абыякавымі, закрытымі, ім не трэба беларускай мовы да шчасця...

(гак)

## Ян Тарасевіч у знакамітай кампаніі!



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Беласток ушанаваў беларускага кампазітара Яна Тарасевіча. Яго імя прысвоена дарожнаму колу між вуліцамі 27 Ліпеня, Яна Бжэхвы, Далістоўскай у квартале Выгода. Месца ўжо пазначанае таблiцамі і прамаўляе як музычна-мастацкае дапаўненне тапаграфіі горада. Тут, у згаданым квартале, у блізкім суседстве знаходзяцца вуліцы Моцарта, Манюшкі, Агінскага, Вяняўскага, Выспянскага, Хелмонскага, Ваньковіча. З польскім пісьменнікам Мельхёрам Ваньковічам Тарасевіч быў асабіста знаёмы. Яны сустракаліся ў маёнтку Князёўка (ля Залесся на Сакольшчыне), які належаў Анне Рышка, сястры Ваньковіча. Таксама асаблівая сувязь сакольска-беластоцкага кампазітара з Манюшкам. У спадчыне Тарасевіча захавалася некалькі інтэрпрэтацый на творы Манюшкі, напісаныя ў пасляваенныя гады XX ст. у Беластоку.

Варта дадаць, што непадалёк дарожнага кола Тарасевіча, на вуліцы Струга, знаходзіцца культавая студыя гуказапісу „Hertz", якую вядуць браты Вяслаўскія з Саколкі. Прыгадаймa, прапанова прысвоіць імя Яна Тарасевіча дарожнаму колу была пададзена Форумам меншасці Падляшша, якую беластоцкія радныя прагаласавалі аднагалосна 17 снежня 2012 года.

(гак)

# Беларускія студэнты і музей

## *Пачаткі пабудовы ў 80-я гады XX стагоддзя*

Юрка ЛЯШЧЫНСКІ
Журналіст беларускай рэдакцыі Радыё Беласток

Беларускі музей у Гайнаўцы ў маёй працы і грамадскай дзейнасці заўсёды быў і ёсць важнай установай.

У васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя афіцыйны назоў гучаў „Музей беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху", пазней, пасля падзення „камунізму" ў Польшчы, стаў толькі Музеем і асяродкам беларускай культуры.

У васьмідзесятыя гады ў разгар беларускага студэнцкага руху на музей мы, студэнты, глядзелі станоўча, але не падабалася нам другая частка яго назвы — „рэвалюцыйны рух". Быццам беларуская культура неад'емна спалучаная з гэтым „рухам". Неаднойчы казалі мы (але хто тады слухаў студэнтаў), што „рэвалюцыйны рух" непатрэбны для нашага музея. Падобнага тыпу сумненні выказвалі і беларускія эміграцыйныя колы, а менавіта адтуль ішлі найбольшыя грамадскія грашовыя ўзносы. Але казалі нам, што ў той час (гэта было пару гадоў пасля ваеннага становішча ў Польшчы) раздзяляць рэвалюцыйны рух і беларускую духоўную і матэрыяльную культуру было немагчымым. Наадварот, „рэвалюцыйны рух" нібыта даваў шанц на існаванне беларускай культуры. Так тлумачылі нам (пераконвалі нас) тадышнія стваральнікі музея Канстанцін Майсеня і прафесар Аляксандр Баршчэўскі — актыўны прапагандыст музейнай ідэі ў беларускім эміграцкім асяроддзі.

Помню гэтак званыя „цаглінкі" — добраахвотныя грашовыя ахвяраванні на пабудову музея. Мы, беларускія студэнты, што тут казаць, былі не надта заможныя і „цаглінкі" куплялі рэдка. Але той жа прафесар Баршчэўскі, пішучы артыкулы ў „Ніву", атрымаными за іх ганарары перадаваў на пабудову музея.

Калі на пераломе 1985 і 1986 гадоў узнікла „Прысутнасць" — штомесячная студэнцкая старонка ў „Ніве", тады і мы свае ганарары за артыкулы прызначалі на музей. „Ніва" тады друкавала адпаведную рубрыку з пералікам грашовых узносаў на пабудову музея. А пад амаль кожным артыкулам у газеце быў допіс „ганарар на музей". Такім чынам і тадышнія беларускія студэнты ўнеслі свой фінансавы, можа і невялічкі, уклад у пабудову. Сёння гэта немагчыма. Калі нехта займаецца беларускай справай, нават калі завецца яна „грамадскай", шукае спосабу на гэтым зарабіць. Тады ж была агульная ідэя.

Але, давайце, вернемся ў тыя „змрочныя" васьмідзесятыя гады. Беларуская студэнцкая дзейнасць апроч таго, што рабілі мы на сваіх вучэльнях, у студэнцкім асяроддзі, распаўсюджвалася шырэй — ладзілі на роднай Беласточчыне рэйды-паходы. Летняя „Бацькаўшчына" ды ўвесну і ўвосень — „Развітанне". І часта так здаралася, што на шляху студэнцкай вандроўкі была Гайнаўка. Тут жа і музей, якога ніколі не абміналі. Для яго мясцовых стваральнікаў была нагода, каб распавесці студэнтам як „цяжка, але і ахвярна будуецца музей".

Памятаю як Кастусь Майсеня ці Аляксандр Іванюк — дырэктар Гайнаўскага белліцэя (абодвух няма ўжо ў жывых), праводзілі нас па будове і паказвалі што тут было, ды галоўнае — што БУДЗЕ!

„Вось тут, — казаў Майсеня, — будзе экспазіцыйны зал, а там, на другім паверсе, наладзім кіно і беларускую бібліятэку. А вось там, — ужо паніжаючы голас, дадаваў, — наладзім друкарню. Будзем друкаваць беларускія газеты, кніжкі, — і яшчэ ціцэй дадаваў, — тое, што спатрэбіцца нашай справе. Друкарскія прылады дашлюць нам беларусы ў эміграцыі". На жаль, у той час на больш канкрэтную дапамогу з боку Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі разлічваць не было сэнсу, хаця той „рэвалюцыйны рух" нібыта меў пераканаць суродзічаў з БССР аб „сацыялістычнай і рэвалюцыйнай" ролі музея.



Студэнцкі рэйд „Бацькаўшчына-3", Гайнаўка, ліпень 1986 г. Першы злева Кастусь Майсеня

Прыгадваецца мне як прагныя былі мы беларускай нацыянальнай гісторыі і літаратуры. У БССР яе не было, а на эміграцыі — удосталь. Тады слалі нам, беларускім студэнтам, тыя кніжкі пра гісторыю, газеты і зборнікі вершаў. На жаль, большасць пасылак была канфіскавана, беручы пад увагу іх (кніжак і газет) антыпольскі, антысавецкі ды яшчэ антысацыялістычны змест. Але, як і ўсё ў тыя ж васьмідзесятыя, запора не была ўжо такой шчыльнай. Трапіла ў нашы рукі паэзія Арсеннева, „Змагарныя дарогі" Кастуся Акулы і „Беларусь учора і сяньня" Язэпа Найдзюка. А газетныя выданні, як „Беларус", „Зважай" ці яшчэ нешта былі на парадку дня. Мы і самі друкавалі „літаратуру": лістоўкі, ксеракопіі эміграцыйных выданняў, дадаючы ад сябе: „Прачытай, перапішы і другому перадай". Тады думалі, што наўрад ці такая „літаратура" знойдзе месца ў беларускай бібліятэцы музея. Месца знайшлося.

Ды музей гэта перш за ўсё старына, інакш кажучы экспанаты. З імі, так папраўдзе, найбольшы боль і горыч. Па ўсіх тых мясцінах, дзе вандравалі ў сваіх рэйдах беларускія студэнты, такіх „экспанатаў", хатніх, гаспадарскіх прылад было процьма. Асабліва ў тых вёсках, якія ўжо былі выселены пад пабудову Семяноўскага вадасховішча. Нашыя рэйды „Развітанне" менавіта там і праходзілі, таму і назоў такі — развітваліся з гэтым кусочкам малой Бацькаўшчыны, якую неўзабаве затопяць.

Прыгадваецца начлег у вёсцы Лука, бадай, у 1987 годзе. У апусташанай вёсцы цэлае мноства рознага тыпу гаршкоў, збанкоў, вазаў, вазонаў, якія валяліся на апусцелых панадворках. Гэта той час, калі жыхароў з 13 вёсак перасялілі ў Гайнаўку, Беласток ці іншыя месцы, як хаця б у пасёлак шматпавярхавікоў у Бандарах, але пабудова вадасховішча яшчэ не завяршылася. Вёскі яшчэ не былі залітыя вадой, таму пакуль можна было хадзіць, вандраваць па гэтым абшары.

Лука ў свой час славілася на ўсю ваколіцу ганчарамі, адсюль і столькі нікому ўжо непатрэбных гаршкоў. Ды не толькі гаршкі. На панадворках, у хатах, каморах, клунях ляжалі пакінутыя сундукі, колішнія маслабойкі, прасы з душой, жорны, малацілкі, цапы і сярпы. Усё гэта ідэальна надавалася ў музей беларускай матэрыяльнай спадчыны, але, напэўна, не „рэвалюцыйнага руху". Не трэба было б тады прасіць Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы вярнуць тое, што было перададзена пасля ліквідацыі Беларускага музея ў Белавежы ў пачатку сямідзесятых гадоў XX стагоддзя.

Экспанаты на незалітай яшчэ тэрыторыі Семяноўскага вадасховішча проста валяліся пад нагамі. Трэба было іх толькі сабраць і перавезці ў... менавіта, куды? Музея ў Гайнаўцы, як такога, яшчэ не было. Замаруджвалася яго пабудова ці то па прычыне нястачы сродкаў, ці то з-за адсутнасці адпаведных дазволаў... Так ці інакш, „экспанаты" для музея гінулі, іх расцягвалі, знішчалі, пакідалі. Чаго не расцягнулі, не знішчылі людзі, пасля заліла вада. Нават цяпер, калі гляджу на ўбогасць экспанатаў у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, сэрца разрываецца, успамінаючы, як марнавалася беларуская матэрыяльная (вясковая) спадчына.

Ацалела няшмат, хаця многія проста для сябе, з сентыменту, пачалі збіраць старыну. У школах ствараліся гэтак званыя мясцовыя рэгіянальныя куткі. Паявіліся яны ў Бельску, Орлі, Дубічах, Рыбалах. У Скарышаве спадар Філяновіч стварыў уласны беларускі музей. І ў прыватных руках старыя прылады ўпрыгожваюць кватэры. Адным словам, пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы, якая цягнулася столькі гадоў, стала штуршком для таго, каб берагчы старыну. Бо гэта наша гісторыя. Толькі шкада, што той энтузіязм стваральнікаў Беларускага музея васьмідзесятых гадоў быў такі хаатычны. Мела гэта ўжо неўзабаве змяніцца. З пачаткам 1990-х, пасля змены грамадска-палітычнага ладу ў Польшчы і Беларусі, „рэвалюцыйны рух" адышоў у гісторыю, а пабудова Беларускага музея ўвайшла ў новы пакручасты этап, а жыццё — у капіталістычны лад, дзе рашае не ідэалогія, а грошы. Ці гэта лепш? Не ведаю. Напэўна інакш.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Бобрай (4)

Бобра з Нэтай калісь зліваліся каля Далістова, і гэтакі вузел істотных у сярэднявеччы рачных камунікацый вызначаў ранг мясцовасці. Зараз Далістова ў Ясвілаўскай гміне, пра якую беластоцкі гісторык Юзэф Марошэк напісаў так: „Obszary dzisiejszej gminy Jaświły w dobie tworzenia się zrębów struktur państwowych należały do Mazowsza i wraz z nim, prawdopodobnie przed 963 r., znalazły się w państwie polskim. Z X — 1 poł. XIV w. nie zachowały się jednak żadne prawne dokumenty pisane, nie odnotowano nazwy żadnej z istniejących tu osad. Był to obszar podległy kasztelanowi w Wiźnie". Але, так як раней было гэта абумоўлена — толькі „prawdopodobnie". А можа гэтак жа „prawdopodobnie" абшар гэты падлягаў кашталяну ў Плоцку або нават у Кульме — хто ведае, як там было, калі не захаваліся ніякія дакументы...

Далей: „Za najdawniejszą wzmiankę źródłową dotyczącą tego terytorium uznać należy fakt prowadzenia tu w roku 1009 misji św. Brunona z Kwerfurtu. „Kronika Kwedlinburska" stwierdza bowiem, że: „Bruno, drugiego imienia Bonifacy, arcybiskup i mnich w 18 roku swego wyświęcenia zginął 9 marca (1009 r.), ścięty przez pogan na granicach Rusi i Litwy z 18 towarzyszami i wzięty został do niebios". Piotr Damiani w Vitae Sancti Romualdi pisał, że Bruno opowiadał słowo boże Rusinom, a dzięki zdziałanym cudom nawróciło się ich wiele tysięcy. Ditmar z Merseburga zapisał, że Bruno przybywszy na granicę Prus i Rusi znalazł mieszkańców tam sobie przeciwnych, i że nieustraszony ich groźbami, zamordowany został wraz z 18 towarzyszami dnia 14 lutego 1009 r. Dla prowadzenia akcji misyjnej, zarówno wśród Rusinów, jak i Bałtów Bruno musiał wybrać punkt najbardziej optymalny komunikacyjnie. Takie warunki stwarzała miejscowość dziś zwana Dolistowo Stare nad Biebrzą".

Кведлінбург і Мерзебург знаходзяцца на паўднёва-заходніх акраінах Саксоніі-Ангальта і пражываючыя там летапісцы напэўна вельмі цьмяна ўяўлялі сабе адлеглыя землі Русі, Літвы і Прусіі; Пётр Дамяні жыў яшчэ далей, бо ў Італіі. Аднак жа цалкам магчыма, як гэта падказвае прафесар Марошэк, што апісаны імі святы Бруна рашыў прапаведаваць добрую навіну менавіта на нашай цяперашняй Беласточчыне. Невядома толькі, якія язычнікі — яцвяжскія ці славянскія — адправілі яго на той свет; вядома толькі, калі пагадзіцца з меркаваннем прафесара Марошка, што падлягалі яны кашталяну ў Візне...

Кім жа быў той святы Бруна? Нарадзіўся ён каля 970 года ў Кверфурце, што ў той жа згаданай Саксоніі-Ангальт, у знатнай нямецкай сям'і. Магчыма, што слугамі ў той сям'і былі мужыкі з палабскіх славян: лужычан, люцічаў ці іншых, і ён мог у такіх умовах вывучыць іх славянскую мову. У пятнаццацігадовым узросце Бруна становіцца дваранінам вядомага з польскай гісторыі нямецкага ўладара Атона III і разам з ім у 996 годзе едзе ў Рым на яго каранацыю. Там знаёміцца са святым Войцехам, які годам пазней гіне ад прускіх язычнікаў. Бруна ахоплівае прага таксама стаць мучанікам. Імператар Атон III хоча перавесці ў новую веру славянскіх язычнікаў, што засялялі міжрэчча Одры і Лабы, і папа Сільвестар II назначае Бруна біскупам язычнікаў з задачай ладжання місіянерскай дзейнасці сярод апошніх...

А кім быў папа Сільвестар II? Паходзіў ён з Францыі, займаўся навуковай дзейнасцю ў галіне філасофіі, матэматыкі і фізікі. Увёў ён у еўрапейскі абарот арабскія лічбы, з якімі пазнаёміўся бываючы ў Кордаўскім халіфаце. Сканструяваў ён таксама маятнікавы гадзіннік. Была гэта даволі незвычайная для папскай пасады дзейнасць і таму пра яго ўзніклі розныя легенды, быццам ён інтэнсіўна кантактаваўся з д'яблам, а папскую карону выйграў граючы з нячысцікам у косці... Быў ён папам чатыры гады: з 999 да 1003 года; у 1000-м годзе ён заснаваў мітраполію ў Гнезне.

Бруна меў спачатку весці місіянерскую дзейнасць у Польшчы, але з-за неспрыяльных тут умоў накіраваўся ў Венгрыю, дзе ягонай місіі супрацьвілілся „грэчаскія" манахі. У 1007 годзе трапіў ён да кіеўскага князя Уладзіміра, а той скіраваў яго да печанегаў, даволі небяспечнага племя, якое насяляла ўзбярэжжа Чорнага мора; там Бруна прабыў каля пяці месяцаў, прыводзячы ў новую веру каля трыццаці дарослых. Адтуль, як падаюць ягоныя агіёграфы, вярнуўся ў Польшчу і ў канцы 1008 года падаўся са спадзвіжнікамі ў Прусію, аднак тамашні грунт быў „неўраджайны", як гэта назваў Цітмар Мерзебургскі, і місіянеры рашылі зноў падацца ў рускія землі, па дарозе адважна прапаведуючы добрую навіну; іх заатакавалі язычнікі і выбілі ўсю місію...


Святы Бруна


Базіліка ў Бельску-Падляшскім

Ігнат Даніловіч, ураджэнец падбельскіх Грыневіч, прафесар Віленскага ўніверсітэта, так пісаў пра гэтую падзею: „Dopiero w r. 1008 Bruno z ośmnastu towarzyszami benedyktyńskiego zakonu udał się do Prus dla nawracania pogan. Tkwiły jeszcze w świeżej Prusaków pamięci usilności Wojciecha w wytępieniu ich wiary, pamiętali obelgi i potwarze rzucane na ich bogów i pomiatanie świętościami. Przeczuwali jarzmo niewoli, z wiarą na ich karki spaść mające, i coraz bardziej brzydzili się wszystkiem co było chrześcijańskiem. Ostrzegali przeto Brunona, aby zaniechał kazań w ich kraju i powrótem ocalił życie. Nie posłuchał mąż Boski pogańskich pogróżek, posuwał się coraz dalej w głąb kraju, może dobrem powodzeniem zagrzany, i dotarł aż do granic Litwy i Rusi, gdy znienacka 14. lutego przez pogan pojmany i wtrącony do więzienia, dał spokojnie swą szyję pod topór z 18 towarzyszami, których uprzednio rąk i nóg pozbawiono. Uwiadomiony o losie męczenników, Bolesław wysłał do Prus poselstwo dla wykupienia ich ciał, na przyszłą pociechę świeżo założonego benedyktyńskiego klasztoru". Здаецца, што і зараз, 1004 гады пасля смерці святога Бруна, абраза рэлігійных пачуццяў у некаторых краінах „недалёкага" Усходу трактуецца вельмі падобна як гэта было ў прусаў ці яцвягаў...

Даволі цікавае меркаванне наконт місіі святога Бруна быў выказаў Мікола Гайдук: „Хоць агульна прынята лічыць, што Бруна накіраваўся да яцвягаў прапаведаваць хрысціянства і загінуў ад іх рук, але глыбейшыя роздумы над далейшымі падзеямі ў Тураўскім княстве схіляюць да думкі, што яго місія мела больш свецкі і палітычны характар. Справа ў тым, што князь тураўскі Святаполк павёў патаемную, але вельмі настойлівую палітыку на поўнае адлучэнне ад Кіева. Правеўшы адпаведную падрыхтоўку ўнутры княства і забяспечыўшыся падтрымкай магутнага свайго цесця Баляслава Храбрага і ваяўнічых печанегаў, Святаполк у 1012 годзе аб'явіў сябе і Тураўскае княства поўнасцю незалежным ад улады свайго бацькі, князя кіеўскага Уладзіміра Вялікага. І тут, мабыць, крыецца загадка патаемнай місіі епіскапа Бруна ў Яцвягію; ён падаваўся туды, каб схіліць яцвяжскіх кунігасаў-князькоў да выступлення ў падтрымку князя тураўскага Святаполка супраць Уладзіміра кіеўскага. Але нехта разгадаў гэтую таямніцу і смерць дагнала пасланца аж на пагранііччы".

Князь Баляслаў Храбры выкупіў целы місіянераў і прывёз у Польшчу. А ці тыя целы везлі праз замак у Візне? З аглядкай на тое, што далёкія германскія летапісцы не надта згодныя з сабою, напрыклад наконт даты смерці святога Бруна, можна аднесціся да іх хронік з нейкай дозай недаверу, у тым ліку і да месца яго апошняй місіі. Цалкам магчыма, што было гэта не на ўсходніх, а на паўночных акраінах Мазовіі, не надта далёка ад Баляслававага Гнезна, значыць недзе паблізу кашталяна ў Кульме, значыць у сённяшнім Хэлмне каля Торуні. Кракаўскі прафесар Сабескі быў пісаў, што адтуль быў найлягчэйшы доступ у Прусію, чым пазней пакарысталіся крыжакція „місіянеры". А да Візны святы Бруна дачыненне таксама мае — ён з'яўляецца патронам Ломжынскай дыяцэзіі.

Марошэк: „Zastanawia fakt, że tereny poza Nettą, Biebrzą i Brzozówką, aż po Grodno, na których po dzień dzisiejszy zamieszkuje ludność posługująca się gwarami wschodniosłowiańskimi, niemal nie miały cerkwi, a przede wszystkim kościoły. Mieszkańcy „od zawsze" byli katolikami. Wraz z katolicyzmem zyskali polską świadomość narodową. Rusini-katolicy zamieszkujący u progu ery nowożytnej te tereny mogli być potomkami tych, dla których działała misja Brunona z Kwerfurtu i którzy, według legendy o życiu tego świętego, masowo nawrócili się na katolicyzm". Вось так, *znalazł mieszkańców tam sobie przeciwnych*, якія *masowo nawrócili się na katolicyzm*; чым жа быў ён тады ім *przeciwny*?..

Цэркваў за Нэтай было шмат, бо ж даўней больш паловы насельніцтва Аўгустоўскага павета было ўніятамі. Ды і на захад ад Нэты былі яны. Анна з Радзівілаў Кішка ў 1570 годзе, як падае супрацоўнік прафесара Марошка Аркадыюш Студнярэк, „dobra swoje dziedziczne Goniądz i Rajgród, zamki i miasta, ze wszystkimi wsiami, folwarkami, dworami i ich bojarami, dobrami danymi Kościołowi i Cerkwi ruskiej, wszelkimi gruntami, puszczami i innymi pożytkami i dochodami, ze wszelkim prawem własności, które jej służyło, nic sobie nie ujmując, tak samo, jak po śmierci swojej siostry Petroneli Radziwiłłówny do tego czasu trzymała i używała, Zygmuntowi Augustowi, nie jako królowi polskiemu i wlk. ks. litewskiemu, ale jako osobie prywatnej i jego potomkom, dała i zapisała na wieczne czasy". Цяпер там канфесійны краявід іншы; прафесар Сабескі, як ужо раней згадвалася, крышку быў падказаў чаму.

Афіцыйны партал Ясвілаўскай гміны аздоблены панарамай даліны Бобры каля Далістова. У Старым Далістове рынак, што падкрэслівае ранг мясцовасці, якая ў задуме яе заснавальнікаў мела быць горадам, цэнтрам навакольных зямель. Пры рынку мураваны касцёл, пабудаваны ў 1791 годзе. Ранейшы касцёл, драўляны, быў пабудаваны недзе каля 1500 года. Цяперашні далістоўскі касцёл з'яўляецца своеасаблівым двайніком бельскай базілікі, горшай якасці падробкай — як ацэньваюць гэта архітэктары. Абыдва касцёлы былі будаваны ў больш-менш той сам час, фундавала іх Ізабэла Браніцкая ды ўзводзіў іх Ян Чэрнік. Нечаму дзівавацца — Далістова было ж у гістарычнай Бельскай зямлі.

З Далістова ў Монькі вяртаўся я аўтобусам публічнага транспарту. Першую палову дарогі ехала ў ім двое пасажыраў, а пасля шафёр вёз толькі мяне — як пантыфіка ў папамабілі. Бо як жа гэты факт назваць інакш, калі навокал столькі рэлігійнасці?.. Тэма заняпаду публічнага транспарту на гістарычнай Бельшчыне — аўтобуснага ці чыгуначнага — становіцца ўжо быццам нуднай.

# Прэзентацыя з прысмакам жаданага поспеху!

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



— Чаму я рашыў выдаць кніжку Міры Лукшы? — голас узяў Адам Сяменчык, гарадоцка-беластоцка-лонданскі паэт, мастак і аніматар культуры, рэдактар і добры дух «Белага стоку». — Тут спрацавала такая недарэчнасць. У Беластоку ўсе ведаюць Міру Лукшу і амаль ніхто не ведае, што яна напісала, — сказаў ён на прэзентацыі ў Цэнтры Заменгофа 1 лютага г.г.

* * *

Паэтычны том «Белы сток» — адзінаццатая па ліку кніжка Міры Лукшы — з'явілася нечакана напрыканцы 2012 года, дзякуючы варшаўскаму выдавецтву «IBIS». Рэкамендацыю на літаратурую прэмію імя Веслава Казанэцкага, нягледзячы, што кніжка напісана на польскай мове, заявіла рэдакцыя «Нівы». Сярод дваццаць адной дасланай на конкурс кнігі «Белы сток», разам з чатырма іншымі творамі, апынуўся на шорт-лісце літаратурнай прэміі прэзідэнта горада Беластока.

— Ужо само вылучэнне гэта вялікая ўзнагарода, — гаварыла Міра Лукша.

У той жа шчаслівай пяцёрцы апынуўся вядомы польскі драматург Тадэвуш Слабадзянак, знакаміты празаік і паэт Кшыштаф Гедройць ды Дарыюш Адамоўскі і Войцех Рашкоўскі — паэты, прыкмечаныя ў агульнапольскіх літаратурных конкурсах. Для іх наладзілі ў горадзе прэзентацыі, што выдатна паспрыяла жывому кантакту з літаратурай і аўтарамі.

* * *

— Я ўжо хацеў падняцца і сказаць, што беларусы ў змозе думаць адначасна на дзвюх мовах, — кажа мецэнас Пятро Юшчук, які разам з жонкай Аняй прыйшоў на сустрэчу ў Цэнтр Заменгофа. Апошняя заўвага датычыла пытання як Міра Лукша адчувае сябе ў польскай мове. Яе адказ, звычайна, выклікаў збянтэжанасць. Яна ж найперш вядомая як беларуская паэтэса.

— Мова гэта найперш знакі! — адказала яна.

— Як гэта разумець?

— Паэзія гэта эмоцыі і вобразы запісаныя пэўнымі знакамі...

Само пытанне было пастаўлена ў добрай веры, найперш каб паказаць шырыню лінгвістычна-літаратурнага дыяпазону двухмоўнага аўтара. Выкліканая ў час прэзентацыі тэма гэта пакуль цяжкая і заблытаная праблема Беластока. Прыклады двухмоўнай прысутнасці ў культуры горада тут успрымаюцца як сенсацыя, хаця для мясцовых беларусаў гэта неабходнасць.

* * *

На заканчэнне хочацца сказаць некалькі слоў пра значэнне добра падрыхтаванай ды падагрэтай прысмакам прэміі прэзентацыі. У Цэнтр Заменгофа прыйшлі чытачы ўсіх пакаленняў і полаў, паклоннікі, сваякі і сябры паэткі. Сустрэчу павёў Мацей Халадоўскі, які з эмпатыяй і знаёмствам інфармаваў і адначасна пытаўся пра жыццёвыя моманты і эпізоды, якія выспелі ў кніжцы. Адначасова чыталіся ім і гераіняй сустрэчы вершы, якія публіка ўзнагароджвала цёплымі апладысментамі, а пасля штурмам рушыла купляць кніжку з аўтографам.

— Nie wiedziałam, że mam taką utalentowaną koleżankę, — чуўся за плячыма жаночы голас.

— Mireczka, taka skromna, że trudno to po zachowaniu powiedzieć, — адказаў нехта.

— Ja by to jej nagrodę tę dała, — цягнула першая.

— Należy się, to nie podlega dyskusji, — сказала са зразуменнем другая, — przecież dziś nikt tak po ludzku, prawdziwie już nie pisze jak ona...

Я сама была пад уражаннем атмасферы прэзентацыі. Яна паказалася мне найбольш пранікнёнай і падрыхтаванай сярод усіх зладжаных Міры Лукшы на працягу апошніх дваццаці гадоў. Яшчэ больш прыемна было глядзець на чаргу, якая выстраілася, каб набыць кнігу і атрымаць аўтограф аўтаркі. У наш час гэта зусім прызабытая ўжо карцінка!




Падвоенасць беларускага жыцця адчуваецца ў Беларусі амаль ва ўсім, у першую чаргу, канешне, у палітыцы. Расколатая ментальна краіна жыве нібыта ў раздвоеных палітычных рэаліях — афіцыйных і апазіцыйных. Тое ж самае тычыцца і грамадскай дзейнасці — ёсць арганізацыі, што жывуць таму, што гэта патрэбна ўладам, другія — таму, што маюць неблагіх спонсараў. Відавочна, што такая сітуацыя не можа не адбіцца і на мастацтве, у прыватнасці на музыцы. Каб упэўніцца ў гэтым, варта зазірнуць на сайт „Музычная прастора Беларусі", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://mpby.com.**

У самой назве сайта знаёмы з беларускімі рэаліямі чалавек адразу заўважыць, што яна надта гучная. Бо чамусьці няма ў гэтай самай музычнай прасторы тых гуртоў і выканаўцаў, якіх штодня можна пачуць па беларускім тэлебачанні і радыё і якія прадстаўляюць Беларусь на розных міжнародных фестывалях кшталту „Еўрабачання". Затое ёсць гурты, якія занесены лукашэнкаўскімі ўладамі ў „чорны спіс" і якім не даюць спяваць на радзіме. Разам з тым неабходна прызнаць, што тыя, хто прадстаўлены на сайце, гэта сапраўды беларускія музыкі, а не крэатура расійскіх прадзюсераў з адпаведным поглядам на „малодшага брата".

Што тычыцца будовы сайта, то яна даволі простая. Ён падзелены на тры часткі. Пасярэдзіне галоўнай старонкі месцяцца навіны. Гэта таксама і асобная рубрыка сайта. Прыемна бачыць, што абнаўляюцца яны даволі часта, а паведамленні, хоць і не ўласнага пяра, але цікавыя і змешчаны там не толькі для таго, каб нешта змясціць.

З правага і левага бакоў сайта знаходзяцца рубрыкі. Справа, акрамя навін, мы можам выйсці на „Афішу", „Акорды", „Мр3", „Кліпы", „Урокі" і „Студыі гуказапісу". І тут ужо заўважаюцца хібы. Так, „Афіша" апошні раз абнаўлялася ў 2011 годзе. Гэта вялікая недапрацоўка ўладальнікаў партала, бо ў многім, дзякуючы менавіта анонсным паведамленням, можна было б прыцягнуць на свой сайт больш карыстальнікаў. А калі ж на яго не выстаўляецца нічога, чаго чакае музычная беларуская супольнасць, то чаго туды „заходзіць"?

Вельмі цікавай і карыснай для тых, хто грае на гітары, з'яўляецца рубрыка „Акорды". Дарэчы, яна дублюецца на левым баку сайта, дзе адначасова раскрываецца ўвесь яе змест. Арамя таго, што там падаецца тэкст той ці іншай песні, ёсць яшчэ і акорды, якія трэба браць, граючы музыку да гэтай песні на гітары.

Падобна „Акордам" пабудавана і рубрыка „Мр3". Праўда, там не месцяцца тэксты песень, але ёсць кампазіцыі. Кожны жадаючы можа праслухаць іх і пры магчымасці спампаваць.

„Кліпы" гэта тое, што нейкім чынам пашырае „Музычную прастору Беларусі". Там можна знайсці не толькі песні сучасных беларускіх груп, але і „старых", кшталту „Песняроў". Прычым асалоду ад праслухоўвання іх дадаюць відэасюжэты.

Рубрыка з дзіўнай на першы погляд назвай „Урокі" месціць у сабе схемы як правільна браць на гітары той ці іншы акорд. Такім чынам стваральнікі данага сайта, відаць, прэтэндуюць на тое, каб ён выконваў адукацыйную функцыю. Гэтая асаблівасць значна адрозніае даны сайт ад падобных музычных сайтаў, што ў вялікай колькасці сустракаюцца ў інтэрнэце.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Шлях патрыёта, філосафа, прэзідэнта

## 110 гадоў з дня нараджэння Вінцэнта Жук-Грышкевіча



Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, настаўнік Вінцэнт Жук-Грышкевіч нарадзіўся 10 (23) лютага 1903 г. у мястэчку Будслаў, што на Мядзельшчыне. Вучыцца пачаў у мясцовай беларускай гімназіі, а пасля яе закрыцця перайшоў у Віленскую гімназію, якую скончыў у 1922 г. Родную літаратуру там выкладаў Антон Луцкевіч, пасля Жук-Грышкевіч не раз падкрэсліваў, што выхоўваўся пад уплывам братоў Луцкевічаў. Далей меў навучанне ў знакамітым Пражскім універсітэце, які скончыў у 1926 г. З Карлавага ўніверсітэта ён выйшаў з дыпломам славянскай філалогіі. Вярнуўшыся на радзіму, доўгі час (з 1927 па 1939 г. да прыходу бальшавікоў) настаўнічаў у Віленскай беларускай гімназіі, дзе выкладаў гісторыю, беларускую мову і літаратуру. Таксама быў выкладчыкам беларускай мовы ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі і ў Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. Актыўна дзеяў у беларускім руху.

У канцы верасня 1939 г. Жук-Грышкевіч быў арыштаваны савецкай уладай і зняволены. Дастатковай падставай стала сяброўства ў Беларускім навуковым таварыстве і Таварыстве беларускай школы. Сядзеў у віленскай турме на Лукішках, потым этапаваўся ў турмы Беластока, Вялейкі, Менска, Полацка, Оршы. Як „сацыяльна небяспечны элемент" быў засуджаны да 8 гадоў савецкага канцлагера. У лагерах працаваў на будоўлі чыгункі ад Белага мора да паўночнага Урала. У 1942 г., як грамадзянін Польшчы, быў вызвалены і трапіў у армію генерала Андэрса. Жук-Грышкевіч прайшоў па дарогах Ірака, Палесціны і Егіпта, браў удзел у бітве пад Монтэ-Касіна.

Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся на эміграцыі. Жук-Грышкевіч стаў першым старшынёй першай эміграцыйнай арганізацыі „новай хвалі" — Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. З 1950 г. жыў у Канадзе. Там абараніў доктарскую дысертацыю на тэму „Лірыка Янкі Купалы", у Атаўскім універсітэце здабыў навуковую ступень доктара філасофіі. На два гады вяртаўся ў Еўропу, дзе працаваў у беларускай секцыі радыё „Вызваленне". Быў жанаты з таксама вядомай беларускай дзеячкай Раісай Жук-Грышкевіч з роду Жукоўскіх, вялікай патрыёткай Беларусі.

Дастаткова значны час — з 1971 па 1982 г. — Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адышоў у іншы свет Вінцэнт Жук-Грышкевіч у тым жа месяцы, што і нарадзіўся — 14 лютага 1989 г., крыху не дажыўшы да абвяшчэння суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку ў амерыканскім штаце Нью-Джэрзі. На надмагільным помніку выява Пагоні, арнамент з „Малое падарожнае кніжкі" Францішка Скарыны і надпіс кірыліцай па-беларуску. Жук-Грышкевіч пакінуў пасля сябе светлую памяць і багатых мемуары, у якіх расказаў пра сваё насычанае калізіямі жыццё.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Новыя ўлады АБЖ

— Нам трэба думаць пра адукацыйныя праекты, каб прыцягнуць маладых, — сказаў **Тамаш Суліма**, новы старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў (АБЖ).

— Мы таксама павінны сустракацца, прынамсі раз у год, каб абмеркаваць мінулы год і падумаць пра будучыню. У асноўным засяродзімся на выдаванні штомесячніка „Czasopis” і, як раней, будзем пільнаваць, каб ён выходзіў тэрмінова і трапляў да чытача.

На сход Асацыяцыі беларускіх журналістаў, які адбыўся 11 лютага ў Беластоку, з'явіліся амаль усе запрошаныя журналісты. Да таго, пакуль былі абраныя новыя ўлады АБЖ, Аляксандр Максімюк, былы старшыня арганізацыі, прачытаў змястоўную справаздачу за чатыры апошнія гады. Увесь тэрмін паўнамоцтваў атрымаўся без перабояў, пры фінансаванні на адным узроўні (160 тысяч злотых). Праўда, не паспелі з выданнем кніжкі Дзмітрыя Шатыловіча, аднак гэты праект і сродкі перанесены на бягучы год. Аляксандр Максімюк звярнуўся таксама да прысутных, каб беларускія СМІ падрыхтавалі публікацыю пра гарадзенскага паэта Юры Гумянюка, трагічна загінулага 19 снежня 2013 г.

Тамаш Суліма (злева) і Аляксандр Максімюк

— Юры — важная асоба ў беларускай культуры. Яго легенда параўнальная з той, якую стварыў вакол сябе Анатоль Сыс, — гаварыў Аляксандр Максімюк. — На маю думку, ён у нас замала ўшанаваны.

Яраслаў Іванюк у сваю чаргу заклікаў да фінансавай падтрымкі пісьменніка Алеся Чобата, які перайшоў складаную аперацыю і астаўся без сродкаў да жыцця.

— Прыгадаю, што ў чэрвені будзем адзначаць 80 гадавіну з дня нараджэння журналіста і пісьменніка Міколы Гайдука, — заявіў Яўген Вапа, — таму ўжо сёння хачу звярнуць увагу, каб усе журналісты ўключыліся ў падзею. І каб напаміналі бурмістру Міхалова пра справу названня імем М. Гайдука адной вуліцы ў Міхалове.

Сярод новых прапаноў, якую заявіў прафесар Алег Латышонак, была ідэя перавыдаць у кніжным выглядзе студэнцкі часопіс „Сустрэчы”.

Згодна са спадзяваннем былі абраны новыя ўлады АБЖ.

Старшынёй асацыяцыі быў абраны **Тамаш Суліма**, які да гэтай пары быў сакратаром штомесячніка „Czasopis”. Яго намеснікам стала **Мірaслава Лукша**, сакратаром — **Вячаслаў Харужы**, скарбнікам — **Юрка Хмялеўскі**. Ва ўправу ўвайшоў таксама **Яраслаў Іванюк** (сябра).

У Рэвізійную камісію былі абраны **Славамір Іванюк, Юры Сульжык** і **Крыстафор Госк**, а ў Галоўны журналісцкі суд — **Аляксандр Максімюк, Уршуля Шубзда** і **Алег Латышонак**.

(гак)

# Фестывальны альбом

Фонд „Царкоўная музыка” ў Гайнаўцы выпусціў кампакт-дыск „Заспявайце Госпаду новую песню” з запісамі песнапенняў, выкананых у ходзе Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2012”. У альбоме змешчаны 26 адабраных твораў у выкананні запрошаных на фестываль хароў з Польшчы і ўсходнееўрапейскага замежжа.

Увесь альбом гэта песнапенныя малітвы — пашыраны новазапаветным зместам свайго роду Псалтыр, выспяваныя з глыбіні душы ўсхваленні і прашэнні. Мяне найбольш кранула выкананне Царскай екценні сербскім хорам з Босніі і Герцагавіны — гэта, у маім адчуванні, Song of Songs усяго альбома.

У шырэйшым плане гэта не толькі Псалтыр, але і больш агульная Біблія, якая ўключае і Апакаліпсіс. Згаданую апошнюю частку ўяўляе інфармацыйны буклет — постфестывальны канферанс самога патрыярха гайнаўскага фестывалю Міколы Бушко, запісаны з амаль такой жа самой загадкавай яснасцю, што і славутая відзеж евангеліста Іаана.

Агульна ж, увесь альбом — музычнае ядро і інфармацыйны дадатак да яго — з'яўляецца выдатнай асалодай для душы, супакаеннем трывожных хваляванняў сучаснага чалавека, тузанага не надта радаснымі выклікамі, якія прыносіць неспакойны навакольны свет. Малітвы, праспяваныя адборнымі выканаўцамі, а такія знайшліся ў альбоме „**Wospojtie Gospodiewi pieśń nowu**”, выдатна памагаюць адвярнуцца ад марнасцей мітуслівай штодзённасці і схіліцца да глыбіні Нірваны.

(ав)

# Мая пасека

Заняцца пчалярствам цягнула мяне ад маладых гадоў. Прачытаў я многа кніжак і перыядычных выданняў — амаль усё, што трэба было ведаць пчаляру-пачаткоўцу. Пазнаёміўся я з пчалярамі, якія ўжо многа гадоў займаліся пчалаводствам. Былі гэта вопытныя, з вялікім стажам пчаляры — Іван Клімук з Нікіфароўшчыны, Пецька Салавей і Іван Рыгаровіч з Рудні. Ад іх я даведаўся многіх сакрэтаў пчалярскай справы. Паўтаралі яны мне: „Віктар, бярыся за пчалярства, за гэтую высакародную справу”.

І вось у 1984 годзе вясною пачаў я афармляць сваю ўласную пасеку. Добра помню свой першы цэнтрыфугаваны мёд і радасць на душы. Я стараўся прыдбаць усё абсталяванне патрэбнае пчаляру для правільнага вядзення пасекі. Купляў я ўсё новае, як кажуць, з-пад іголачкі. Ад самага пачатку выпісваю штомесячнік „Пасека”, з'яўляюся членам Саюза пчаляроў „Падляшша”, прымаю ўдзел у курсах, нарадах, экскурсіях.

Мець сваю пасеку гэта перш за ўсё радасць і здароўе. Пчолы гутараць з пчаляром, а пчаляр з імі. Пчаляр ніколі не павінен дрэнна ставіцца да іх. Калі пераглядаю вулей, калі знаходжуся ў пасецы, адчуваю непаўторную сімфонію іх спеву. Я бачу як радасна і шчыра ляцяць яны ў поле па нектар, як інтэнсіўна працуюць, як дбаюць пра сваю сям'ю. Іх праца — прыклад усяму і ўсім. Аб пчолах можна гаварыць многа — тэма багатая.

Віктар БУРА

## „Беларускі тыдзень” — не раніцай, толькі вечарам

З 1 сакавіка 2013 г. на Беластоцкім тэлецэнтры зменіцца план перадач, у сувязі з чым зменіцца таксама час выхаду ў тэлээфір праграм для нацыянальных меншасцей.

**Тэлеперадача „Беларускі тыдзень” будзе трансляваццa** па нядзелях а гадз. $19^{05}$, **а паўтарацца, так як і раней,** па серадах каля гадз. $17^{30}$

# Адгаданка

1. да Кіева завядзе, 2. Эдгар, французскі жывапісец і скульптар /1834-1917/, 3. побач молата ў савецкім гербе, 4. упрыгожаная навагодняя елка, 5. пухліна па прычыне лішняй вадкасці ў тканках, 6. зло, бяда, 7. колішняя паштовая станцыя, 8. прыемны пах, 9. гукі ад хлюпання вады, 10. наўмыснае супрацьдзеянне ажыццяўленню нейкага важнага мерапрыемства, 11. дзесяцікратнае дзесяць, 12. незамкнутая крывая лінія вакол пункта на плоскасці або вакол восі ў прасторы, 13. вылучэнне складу ў слове сілай голасу або павышэннем тону.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | 2 | | | | |
| | 3 | | 4 | | | | | | | | 5 |
| 6 | | | | 7 | | | 8 | | | | |
| 9 | | | | | | | | 10 | | | 11 |
| | | | | 12 | | | | 13 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — сербская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Агат, бал, дзея, Тройца, чума, шык.

Рашэнне: **Багатаму чорт дзяцей калыша**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.

# 24.02 — 02.03

**(22.03. — 20.04.)** Могуць прытрапіцца залатыя дні ў фінансах у канцы лютага. Ды 25-28.02. будзеш мець разгайданы настрой. Калі ў чацвер пралятаючая птушка капне табе на адзенне, гэта значыць паспяховае завяршэнне судовых спраў. У суботу добра было б табе з'ездзіць куды-небудзь.

**(21.04. — 21.05.)** Расквітнее кампанейскае жыццё. Добра задбаеш аб сваю красу. З 26.02. пачынаецца вельмі добры час для кантактаў з людзьмі; можаш сустрэць кагосьці незвычайнага. Калі ты народжаны на пераломе мая і чэрвеня, можаш прыдбаць немалую суму. Ды бестурботныя знаёмыя могуць сцягнуць на цябе бяду.

**(22.05. — 22.06.)** 24-28.02. трапна ацэніш сітуацыю і дойдзеш да трапных высноў. Будзеш вельмі пераканаўчы. Блізняты з 6-10.06. — калі пазбудзецеся несумленных кантактаў, адкрыюцца перад вамі новыя гарызонты. Не аддавай свае душы там, дзе мала плацяць — наробішся, а атрымаеш дулю. Не выдавай сваіх сакрэтаў.

**(23.06. — 23.07.)** Цяпер ты не вельмі разбіраешся ў фінансах, таму пазбягай ура-аптымізму. Будзь напагатове 23-27.02., бо хтосьці памайстэрску схоча цябе звесці, выкарыстаць, ашукаць і пакінуць. У апошнія дні лютага можаш апарыцца ў фінансах. Хацеўшы пазбыцца непрыемных сустрэч і разборак, моцна натры клямку ўваходных дзвярэй у хату ці на працу лісткамі герані.

**(24.07. — 23.08.)** 23-27.02. трымайся здалёк ад інвестыцый без гарантый. Будзеш у той час вельмі „ўра-аптымістам”, а сябе і сваякоў можаш давесці да страт. Прайдзіся да кардыёлага. Разлічыся з падаткавай інспекцыяй. Важныя справы вырашай не сам, папытайся ў спецыялістаў. Чацвер добры для падмацавання сяброўства і ўзаемаразумення. У канцы тыдня магчымыя інтрыгі, плёткі і скандалы. Прымай ванны, дадаўшы кроплі эфірнага алею гваздзікі.

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях усё будзеш перажываць вельмі блізка, інтымна і інтэнсіўна. У сям'і схочаш быць хваленым і захапляючым. У фірме не пачынай новых інтарэсаў, асабліва калі патрэбны табе хуткі прыбытак; адчакай. У апошнія дні лютага рэстрыктыўная дыета стане невыноснай, цяжка будзе таксама быць паслядоўным. У пятніцу можа чакаць цябе крывацячэнне з носа. У суботу завяршы старыя і абцяжарваючыя справы.

**(24.09. — 23.10.)** У апошнія дні лютага можна шмат зарабіць. Адчуеш, што лёс табе спрыяе. Варта ў гэты час задбаць аб сваю красу; давер метадам з бабулінай аптэчкі, мёду і малаку. Можаш рызыкнуць у фінансах, удалыя здзелкі з нерухомасцямі. Давярай сваёй інтуіцыі і ўяве. Відныя дасягненні ўбачыш пад канец тыдня.

**(24.10. — 22.11.)** Калі ты з цяжкасцю зводзіў канцы з канцамі ці прабаваў пабагацець, у гэты тыдзень твае высілкі звянчаюцца поспехам. 25.02. — цяжкі час для шчырых размоў і тлумачэнняў нялёгкіх спраў; адкладзі іх на пасля. Будзь дыпламатычным і ўважлівым да людзей. У пятніцу ўдасца падпісаць добры кантракт. У суботу не пераходзь межаў у кантактах.

**(23.11. — 22.12.)** Схочацца табе памагчы іншым, ды стрымай гэты парыў, бо сядуць табе на шыю. Не рабі фізічна больш чым можаш. Калі знойдзеш брошку, гэта можа быць знакам рокавага прыцягнення і развальваючай шчасце жарсці. Хтосьці ў тваёй пары можа вырашыць аб расстанні. У пятніцу не займайся азартам.

**(23.12. — 20.01.)** Да 26.02. маеш моцную падтрымку Венеры ў фінансах. Нечаканыя здарэнні прынясуць у тваё жыццё захапленне. Можаш здабыць штосьці новае. Прыдатная ўся новая інфармацыя. У панядзелак не еж рыбы. У сераду не пачынай новага. У пятніцу не насі чырвонага. У суботу знайдзі сабе занятак для душы.

**(21.01. — 19.02.)** Пачуцці возьмуць верх над логікай. Дасі рады супрацьставіцца ўсім негатыўным момантам. Адкінь раздражненасць, глыбей унікай у прапановы блізкіх; стань на іх баку. 25.02. будзе цябе разносіць энергія, не зашкодзь сабе. Дбай аб здароўе, не шалей з дыетамі ці галадоўкай.

**(20.02. — 21.03.)** Задбай аб сваю красу, усміхніся да зорак. 25.02. цяжка будзе табе паспець за ўсімі; спрабуй прывыкнуць да тэмпу падзей. 26.02. паявяцца новыя магчымасці, нават непрыемныя ці абыякавыя да цябе асобы табе памогуць, можаш разлічваць таксама на сяброў і бацькоў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У Мінску паставяць „Пана Тадэвуша”

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Гэта без сумнення найбольш вядомы тэатр у Беларусі. Цяжка гэтаму здзіўляцца. Гэта ж нацыянальная сцэна краіны — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Ад 2009 г. яго мастацкім дырэктарам з’яўляецца, вядомы ў Польшчы са шматлікіх тэатральных падарожжаў, Мікалай Пінігін. Якраз з ім размаўляла ў час адной з сустрэч у Мінску дырэктарка беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Агнешка Карыткоўская-Мазур. Пакольки будынак нацыянальнага тэатра цяпер у рамонце, на часовай сцэне ў Цэнтральным доме афіцэраў спадарыня дырэктарка і спадарожныя ёй асобы паглядзелі адзін з вядучых спектакляў „Купалы” — „Выкраданне Еўропы або Тэатр Уршулі Радзівіл”.**



Агнешка Карыткоўская-Мазур і адзін з удзельнікаў падарожжа ў Мінск мастак-фатограф Павал Гжэсь у фае Цэнтральнага дома афіцэраў





У ролі Арлекіна Аляксандр Казела. Сцэна са спектакля «Выкраданне Еўропы»



Мікалай Пінігін (злева) і Ігар Скрыпка

Гісторыя Тэатра імя Янкі Купалы, як дзяржаўнай установы, сягае верасня 1920 года. Да яго заснавання дайшло дзякуючы акцёру і рэжысёру, першаму яго мастацкаму дырэктару Фларыяну Ждановічу. Гэта найстарэйшы тэатр у Беларусі і стварылі яго, так сказаць, на падмурках Губернатарскага тэатра, які быў адкрыты ў чэрвені 1890 г. па ініцыятыве губернатара Мікалая Трубяцкога, а яго праектантам быў паляк Караль Казлоўскі (аўтар праекта будынка Тэатра імя Юліюша Астэрвы ў Любліне і Нацыянальнай філармоніі ў Варшаве). Спектакль, якім мы мелі нагоду захапляцца, меў прэм’еру ў красавіку 2011 г., а ў мінулым годзе быў прадэманстраваны з нагоды адкрыцця адноўленага замка ў Нясвіжы, пасля пятнаццаці гадоў яго рэканструкцыі. Аснаваны ён на трох арыгінальных тэкстах княгіні Францішкі Уршулі з Вішнявецкіх Радзівіл (1705-1753), першай жонкі Міхала Казіміра „Рыбанькі”, пісаных для тэатра на замку ў Нясвіжы, у якім таксама іншыя яе літаратурныя дасягненні былі паказваны больш-менш дзесяць раз у год, у прызначаных для гэтага будынках. Сцэнічную адаптацыю „Выкрадання Еўропы” зрабіў Сяргей Кавалёў, драматург, штодзень выкладчык Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, а пераклад — яго жонка, паэтэса, цяпер таксама з Любліна Наталля Русецкая. Рэжысёрам быў Мікалай Пінігін. У перапынку сустрэчы з беластоцкай дэлегацыяй расказаў ён „Ніве” аб сваёй пастаноўцы якраз гэтых твораў Уршулі Радзівіл:

— Дзіўна было б не пакарыстацца, пры такой невялікай беларускай спадчыне, XVIII-вечнымі тэкстамі, напісанымі ледзь у нейкіх ста кіламетрах ад Мінска. У нашых галовах, яшчэ з савецкага часу, засталося, што беларуская культура выключна сялянская. А маем таксама ж спадчыну шляхецкую, супольную, польска-беларускую, лацінска-беларускую. У гэтым спектаклі няма спецыяльнай рэжысуры. Гэта просты, наіўны тэатр. Жанчына, значыць, Францішка Уршуля, чакала мужа і заўсёды пад яго прыезд з ваенных паходаў падрыхтоўвала яму на прывітанне падобныя спектаклі.

Спектакль (з перапынкам) складаецца з трох частак: балетнай,ददопернай і камедыйна-драматургічнай, тыповай для XVIII-вечнай стылістыкі, пануючай у нясвіжскім тэатры. Гэта тры аповеды аб каханні, якія спалучае постаць Арлекіна, віртуозна зайгранага Аляксандрам Казелам. Акцёры, з паднятай і апушчанай заслонай, намаляванай адмыслова для гэтага спектакля так, як было гэта трыста гадоў таму, паказваюць сваё майстэрства ў танцы, спеве і акцёрстве. Прыцягвае ўвагу, м.інш. дзякуючы ўдакладненню кожнай дэталі ролі (жэсту, мімікі, маўлення слоў), іграючы купца Банута вядомы беларускі акцёр Віктар Манаеў. Усё пры акампанеменце сучаснай музыкі, складзенай для спектакля Андрэем Зубрычам у спалучэнні з такой, якая магла ў той час гучаць на замку ў Нясвіжы. Гэта ўсё ў супраціве да фае Цэнтральнага дома афіцэраў, дзе гледачы прымушаны перанось зрок з каляровa-казачных сцэн на баталістычныя карціны і малюнкі вышэйшых і ніжэйшых па рангу беларускіх салдат, асабліва на прыкметны сярод іх велічэзны трыпціх, прысвечаны ваенным манеўрам «Щит Отечества 2004» з Аляксандрам Лукашэнкам у мундзіры і з біноклем на першым плане.

У размове з «Нівай» Мікалай Пінігін успомніў аб сваіх планах:

— Рыхтуюся да пастаноўкі «Пана Тадэвуша», які быў напісаны таксама недзе ў ста кіламетрах ад Мінска. П’еса будзе ў дзвюх частках, а адаптацыю паэмы падрыхтаваў таксама Сяргей Кавалёў. Гэта будзе першая прэм’ера на новай, адрамантаванай сцэне нашага тэатра. Намерваемся яе паказаць ужо ў верасні. «Пана Тадэвуша» ніколі не ставілі на беларускіх сцэнах.

Калі мы сустрэліся ў Мінску з Мікалаем Пінігіным і літаратурным кіраўніком тэатра Ігарам Скрыпкам, якраз працягваліся пошукі мастака-афармляльніка для інсцэніроўкі «Пана Тадэвуша». Мікалай Пінігін:

— На жаль, маем у Беларусі праблему са сцэнічнымі мастакамі-афармляльнікамі. У «Пану Тадэвушы» мусіць быць шмат змен месца дзеяння. Не маем такога мастака-афармляльніка, які б з гэтым справіўся. Вядзем ужо размовы ў справе сцэнаграфічнай дапамогі з Польскім інстытутам імя Адама Міцкевіча.

Ігар Скрыпка тут дадаў:

— Хочам у гэтым спектаклі пакарыстацца магчыма сучаснымі тэхналогіямі, якія будуць у новым будынку тэатра (ёсць шанцы, што афіцыйнае адкрыццё новага будынка наступіць яшчэ вясной — М. Х.).

Карыстаючыся нагодай, дырэктарка Карыткоўская-Мазур запрапанавала два прозвішчы выдатных польскіх сцэнографаў, з якімі сама мела сцэнічны досвед: Яцка Маліноўскага і Паўла Дабжыцкага (аўтар м.інш. сцэнаграфічнага афармлення «Корчака» і «Страшнага двара» ў Падляшскай оперы і філармоніі — М. Х.).

У час размовы з «Нівай» дырэктар Пінігін звярнуў увагу:

— На тэатры ў Беларусі ляжыць сур’ёзнае заданне — выхаваўчае. У адрозненне ад Польшчы, мы пазбаўлены гістарычнага кантэксту. Людзі ў нас не разумеюць, што «Пан Тадэвуш» ці тэатр Уршулі Радзівіл гэта таксама частка нашай літаратуры. Калі гледачы прыходзяць на «Выкраданне Еўропы», на жаль, трэба гэта тлумачыць. Шмат хто з Беларусі надалей не ведае, што Міцкевіч, гаварыўшы «Litwo, ojczyzno moja», меў на думцы беларускія землі.

На пытанне «цяпер Тэатр імя Янкі Купалы гэта?...» Мікалай Пінігін адказаў:

— Гэта тэатр, які ментальна павінен задавальняць беларускую нацыю і гэта не справа толькі мовы на сцэне. На Літве, дзе нашмат лепшая сітуацыя калі гаворка пра нацыянальную свядомасць грамадзян, таксама ставіцца мала літоўскіх драм. Я лічу, што перш за ўсё тэатр бярэ на сябе асветную місію. Такімі тэкстамі як «Пан Тадэвуш» павінны займацца нашы школы, а гэтага не робяць. Не гаворыцца ў іх, што такія творы напісаны тут. Іх няма ў школьных праграмах.

Наконт сучаснай беларускай драматургіі рэжысёр-дырэктар Пінігін быў досыць скептычны:

— Калі б я меў ставіць сучаснага беларускага драматурга, доўга мусіў бы над гэтым падумаць. Беларускія аўтары працуюць галоўным чынам на попыт расійскага рынку. Цяжка мне гаварыць аб сучаснай беларускай драматургіі, пісанай беларусамі, ды тое, што я ведаю, не надта цікавае. Драмы, напісаныя беларусамі для расійскай прасторы, гэта не п’есы, а звычайныя тэксты без фіналу. А там, дзе няма фіналу, няма думкі. Яны без структуры, гэта нейкі сцёб, несур’ёзны, малаглыбокі. Беларускамоўнай драматургіяй займаюцца маладыя, ды іх няшмат.

Магчыма, што «Выкраданне Еўропы», а мабыць «Пана Тадэвуша», у рамках супрацоўніцтва тэатраў імя Аляксандра Вянгеркі і імя Янкі Купалы змогуць пабачыць беластоцкія гледачы.

ISSN 0546-1960